НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 15 (900) 15 красавіка 2015

www.nn.by

# Наша Ніва №900

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



Старонка 4

## Як прэм'ер Сяргей Сідорскі Радзіму любіў

## «Усё пачалося з мяне»:

«Наша Ніва» адшукала глуханямога, які першы пачаў прадаваць расійскія і савецкія сцяжкі ў Беларусі.

Старонка 3

## Як кралі ў Белкаапсаюзе

У Мінску пачаўся гучны працэс па справе саюза спажывецкіх кааператываў.

Старонка 11

## 91-гадовы вясковы святар: «Каб жыццё годна пражыць, трэба мець выхаванне, цярпенне і мужнасць»

Старонка 12

## Топ-5 самых дарагіх катэджаў краіны

Старонка 5

## Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у чацвер.
На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2**.

# Ленінаў знясуць, вуліцы пераймянуюць

Зраненая вайной Украіна **забараніла савецкую сімволіку.**

9 красавіка Вярхоўная Рада Украіны ўхваліла пакет законаў, якія прызнаюць нацысцкі і савецкі рэжымы злачыннымі. Ад іх спадчыны Украіна адмаўляецца, а іх сімволіка забараняецца.

Пад забаронай аказаліся сцягі і гербы былых савецкіх рэспублік і СССР, серп і молат (таксама ў спалучэнні з пяціканцовай зоркай), гімны СССР і яго былых рэспублік, сімволіка кампартыі, камуністычныя лозунгі і цытаты савецкіх кіраўнікоў, помнікі і вывы савецкіх кіраўнікоў пачынаючы ад сакратара райкама, помнікі і вывы працаўнікоў КГБ, ГПУ, НКВД савецкага часу. Не абмінуў закон і геаграфічныя назвы, звязаныя з дзейнасцю кампартыі ці савецкімі кіраўнікамі.

Такім чынам, ва Украіне перанавуць гарады Днепрадзяржынск, Ільічоўск, шматлікія вуліцы і праспекты Леніна, Калініна і г.д. За парушэнне закону прадугледжана адказнасць аж да пяці гадоў турэмнага зняволення з канфіскацыяй маёмасці.

Забарона не тычыцца камуністычнай сімволікі існуючых дзяржаў, калекцыянавання сімволікі і музейных экспазіцый, сімволікі на могілках, рэканструкцыі гістарычных падзей. Не падпадаюць пад закон савецкія дзеячы, звязаныя з развіццём культуры і навукі Украіны і вызваленнем яе ад нацысцкіх акупантаў. Не будуць забароненыя і ўзнагароды з савецкай сімволікай. Таксама Рада прызнала байцоў УПА, УНР і іншых арганізацый барацьбітамі за незалежнасць і прыраўняла іх да ветэранаў. А вось назва «Вялікая Айчынная вайна» ўжывацца не будзе. Зараз тэрмін будзе агульнаеўрапейскі: Другая сусветная вайна.


Скіданне Леніна ў Хмяльніцкам.

### «Вырываць гнілыя карані»

Некаторыя ўкраінскія палітолагі бачаць у новым законе «імітацыю кіпучай дзейнасці» рады. Сапраўды, на перайменаванне населеных пунктаў, замену дакументаў жыхароў, дэмантаж помнікаў патрабуюцца немалыя выдаткі. Украіна ж цяпер зусім не багатая краіна.

Аднак ёсць і іншы погляд: нягледзячы на ўсе матэрыяльныя перашкоды, развітанне са спадчынай савецкага мінулага дапаможа рухацца наперад. Расійскі публіцыст Віктар Шандаровіч заявіў, што «пад савецкай сімволікай было здзейснена больш злачынстваў, чым пад нацысцкай» і што цяпер «Украіна [канчаткова] адпадае ад Расійскай Імперыі, якая пэўны час існавала пад савецкай сімволікай».

«Сам кірунак руху безумоўна правільны, — лічыць беларускі гісторык Алесь Пашкевіч. — Камуністычны рэжым рухнуў чвэрць стагоддзя таму, дык навошта захоўваць усе гэтыя тапонімы і іншыя знешнія праявы?

Вельмі важная палітычная воля. Каб рашуча давесці дэкамунізацыю да канца. Без размоў, што народ не гатовы, што лепш ашчаджаць грошы, што засталіся яшчэ прыхільнікі камунізму. Ідэалогія камунізму ўжо фактычна мёртвая і ў сваім класічным выглядзе не існуе. І калі гэта ўсё перайменаваць, назад гэта перайменоўваць ніхто не стане.

Наяўнасць камуністычнай сімволікі, у першую чаргу тапанімікі, мемарыяльных знакаў стварае пэўную атмасферу, што застаюцца рэшткі старога ладу, ілюзію адсутнасці змен. Прыбраць гэта — значыць паказваць, што часы насталі іншыя. Некаторыя кажуць, што гэта, маўляў, не першачарговая задача. Маўляў, спачатку эканоміка, а духоўная сфера — другаснае. Аднак як паказае гісторыя, краіны, якія свядома зрынулі камуністычны рэжым, без доўгіх разваг і нягледзячы на няпростыя часы, сталі больш паспяховымі і больш упэўнена глядзяць у будучыню», — падсумоўвае гісторык.

Сустаршыня Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Павал Севярынец таксама лічыць, што такі крок дазволіць украінскаму народу перайсці на новую старонку гісторыі: «Пакуль Леніны стаяць на плошчах, гэта значыць, што трэба жыць як ён, рабіць як ён. Як толькі зрынаюцца гэтыя ідалы, людзі на ўзроўні сям'і пачынаюць задумвацца. У Нямеччыне пакаленні выраслі на ідэях непрымання нацызму, — праводзіць паралель Севярынец. — Так і камунізм мусіць быць асуджаны не толькі ва Украіне, але і ў Беларусі, на ўсёй прасторы, дзе ён пакінуў ахвяры».

### Дзе яшчэ камунізм у апале?

Сёння ў свеце налічваецца 9 краін, у якіх камуністычныя сімвалы па-за законам. Гэта Чэхія, Венгрыя, Літва, Латвія, Эстонія, Грузія, Польшча і Украіна. У Германіі існуе забарона толькі на сімволіку Камуністычнай партыі Германіі. У Малдове забарона на камуністычныя сімвалы Савецкага Саюза дзейнічала з 2012 па 2013 год, аднак потым была адменена Канстытуцыйным судом.

Пры гэтым, дарэчы, абноўленая Камуністычная партыя там дзейнічае свабодна і нават прыходзіла да ўлады.

А ў Грузіі, дзе закон аб люстрацыі і забароне камуністычнай сімволікі быў прыняты ў 2011 годзе, ён не працуе — грамадзяне папросту не скардзяцца на савецкую спадчыну і не даюць адмысловай камісіі падстаў яе ліквідаваць.

### Расія і беларускія камуністы асуджаюць

Расія паставілася да прынятага закона «Аб асуджэнні камуністычнага і нацыянал-сацыялістычнага таталітарных рэжымаў» чакана негатыўна. Міністр замежных спраў Сяргей Лаўроў заявіў, што «дэгераізацыя сапраўдных герояў вайны рызыкуе падарваць мірнае ўрэгуляванне канфлікту на Данбасе».

Рашуча асудзіла раду і беларуская партыя левых «Справядлівы свет» (былая Партыя камуністаў Беларусі). У заяве «Справядлівага свету» гаворыцца, што прыняцце такіх законаў мае на мэце сказіць гістарычную памяць украінскага народа, а «гераізацыя украінскіх саўдзельнікаў фашыстаў вядзе да адраджэння фашысцкіх і нацысцкіх ідэй і арганізацый, што, безумоўна, нясе пагрозу не толькі Украіне, але і Еўрапейскаму кантыненту ў цэлым».

Гэта гучныя словы, але ані Эстонія, ані Польшча, ані Чэхія, якія дэсаветызацыю правялі, безумоўна, ніякай пагрозы нікому не нясуць. Аднак варта заўважыць іншае: дэсаветызацыя ў гэтых краінах была паспяховай, бо паралельна з ёй вынішчалася карупцыя, палепшала жыццё, людзям далі правы і магчымасці. Краіны збудавалі больш справядлівае, больш дынамічнае грамадства, таму гэтыя народы і не хочуць вяртацца ў мінулае. А калі Украіна застанецца беднай, а ўлады там будуць красці, дык адна дэкамунізацыя не дапаможа і не ўтрымаецца.

Кірыла Хілько

## Сцісла

**Мясніковіч заклапочаны наплывам украінцаў**

Паводле словаў спікера савета рэспублікі, у Брэсцкую вобласць прыбыла каля 3 тысяч украінскіх грамадзян, якія гатовы працаваць у сельскай гаспадарцы. Магчыма, гэта выгадна для некаторых гаспадарак, кажа Міхаіл Мясніковіч, «але мы павінны клапаціцца аб занятасці ўласнага насельніцтва, а не толькі думаць аб заробках нашых украінскіх сяброў». Ад пачатку баявых дзеянняў ва Украіне ў міграцыйныя органы Беларусі звярнулася прыкладна 60 тысяч украінскіх грамадзян.

**Пасля 23 чэрвеня на шэнгенскую візу трэба будзе здаваць адбіткі пальцаў**

Плануецца ўвядзенне візавай інфармацыйнай сістэмы (ВІС) ва ўсіх пасольствах і консульскіх установах дзяржаў — удзельніц Шэнгенскага пагаднення, якія знаходзяцца на тэрыторыі дзяржаў Усходняга партнёрства. Увядзенне ВІС суправаджаецца абавязковай падачай усімі заяўнікамі, старэйшымі за 12 гадоў, біяметрычных дадзеных (адбіткі пальцаў і біяметрычная фатаграфія). Адбіткі захоўваюцца ў ВІС 59 месяцаў і могуць паўторна выкарыстоўвацца пры падачы новых візавых хадайніцтваў.

**Выкладчыцу Гомельскага універсітэта знайшлі павешанай на лесвічнай пляцоўцы дома, дзе яна жыла**

Цела 45-гадовай выкладчыцы знайшлі раніцай у аўторак. Асноўная версія — суіцыд. Жанчына была замужам, у яе двое дзяцей. Дом, у якім яна жыла, у 2014 набыў статус інтэрната рашэннем эканамічнага суда. Раней жыхары дома, выкладчыкі ўніверсітэта, спрабавалі прыватызаваць кватэры, у якіх пражылі па 20 і больш гадоў, але не дабіліся. Суседзі загінулай на ўмовах ананімнасці кажуць, што прычынай суіцыду магло стаць нервовае перанапружанне выкладчыка, якая баялася страціць кватэру ў доме-інтэрнаце, таму шмат працавала.

СМ

## Самае чытанае на nn.by за 8—14 красавіка

1 Расійская прапаганда разварочваецца ў бок Беларусі
2 Як беларускі прэм'ер Сяргей Сідорскі Радзіму любіў
3 У супермаркеце «Еўраопт» у Мінску адбылася масавая бойка
4 Жорсткія рэаліі: адзін дзень раённага ўдзельніка ВІДЭА
5 Прарасійскія «казакі» зладзілі ваенныя зборы для падлеткаў пад Гроднам
6 Украіна. Стомленасць металу — рэпартаж Дар'і Кастэнка
7 Уладзімір Някляеў заявіў пра выхад з апазіцыйных структур
8 Што запісана ў дэкларацыі аб маёмасці генпракурора Аляксандра Канюка? ФОТАФАКТЫ
9 Найбуйнейшы ў Беларусі начны клуб зачыняецца праз нерэнтабельнасць
10 Знойдзены жанчына і яе дачка, якія зніклі 14 гадоў таму і лічыліся забітымі

# «Усё пачалося з мяне»: хто прадае расійскія і савецкія сцяжкі ў Беларусі

«Наша Ніва» адшукала глухога распаўсюдніка савецкай і расійскай сімволікі, які расказаў **пра шлях сцяжкоў** да беларускіх вуліц.



**Гэты хлопец прадаваў ва Уруччы расійскія сцяжкі мінулым летам.**

Праўда, наш суразмоўца папрасіў не называць ягонае імя і не дазволіў сябе фатаграфаваць.

**«Наша Ніва»: Пару словаў пра сябе [Размова адбылася шляхам ліставання ў Word'е — сядзелі мы ў Рэдакцыі].**

– Мне 21 год. Я глухі — не чую ўвогуле нічога. Яшчэ я беспрацоўны і гуляю ў футбол за зборную Беларусі сярод глухіх. Больш нічога казаць не буду.

**«НН»: Калі і як ты пачаў прадаваць чужую сімволіку?**

– Нам, глухім, праз крызіс і праблемы са слыхам сёння вельмі цяжка. Зразумейце, нашыя магчымасці да зараблянне грошай і, адпаведна, нармальнага існавання, вельмі сціплыя.

Варыянтаў няшмат — можна ісці на завод альбо займацца распаўсюдам чагосьці: тых жа сцяжкоў, абразкоў, іншай дробязі ў электрычках. Сам я, напрыклад, на заводзе працаваць не хачу — у маім разуменні гэта нізкі ўзровень. Мне падабаецца гандляваць сцяжкамі, і я нармальна гэтым зарабляю. Ну, «нармальна» — гэта адносна, канечне: каля трох мільёнаў у месяц плюс пенсія. Мне хапае.

А пачыналася ўсё, яшчэ калі мне было 15 гадоў — я тады працаваў у Расіі, прыехаў да брата. Ён таксама глухі і, акрамя таго, што працаваў на заводзе, някепска зарабляў на продажы сімволікі кіроўцам і мінакам. Гэта сярод расійскіх глухіх было даволі папулярным заняткам. Я паглядзеў і пачаў рабіць тое ж самае. Спачатку ў Расіі, а потым, вярнуўшыся ў Беларусь, і тут. Я вярнуўся сюды дзесьці 3—4 гады таму, вось тады ўсё і пачалося з мяне — я першы.

**«НН»: Як гэта набыло такія маштабы, што сцяжкі прадаюць ужо па ўсёй краіне? Дзе вы іх купляеце? Колькі зарабляеце? Чым абумоўлены выбар расійскіх і савецкіх сцягоў?**

– Усё проста: сярод глухіх усе ведаюць адзін аднаго. Калі я пачаў так зарабляць, то сказаў аднаму — той таксама пачаў і сказаў другому, а той — трэцяму. Вось так пакрысе працэс пайшоў — штосьці кшталту сеткавага маркетынгу. Цяпер продаж сімволікі — гэта для некаторых, нават мяне, асноўны прыбытак.

Скажу таксама, што нават тыя людзі, што працуюць на заводах, пачалі «прыгандлёўваць» сцягамі, каб мець больш грошай. Я збольшага ўсіх прадаўцоў ведаю — у Мінску, напрыклад, такіх 10—15 чалавек, не больш. Усе працуюць па адной схеме: едуць у Маскву, там закупляюцца на адзін-тры месяцы наперад і тут ужо рэалізоўваюць.

Назвы маскоўскай крамы я не памятаю, але яна знаходзіцца ля станцыі метро «Севастопальская». Там мільёны сцяжкоў, якіх заўгодна. Прынамсі я купляю адразу гуртам — каля тысячы сцягоў, тады сабекошт аднаго атрымліваецца дзесьці 8 тысяч на нашыя грошы, а прадаю за 20 тысяч. У кішэні «чыстымі» ў выніку дзесьці 6—7 мільёнаў за два месяцы. На тавар і дарогу выдаткоўваецца дзесьці 11 мільёнаў за раз.

Сцяжкі таксама можна камбінаваць, то бок у краме можна асобна купіць «аснову», якая лепіцца на шкло, і туды засунуць некалькі сцягоў — беларускі і расійскі, напрыклад. Ці беларускі і беларускі. Ці хоць аргенцінскі, умоўна кажучы. Выбар тут залежыць толькі ад чалавека, які прадае.

Напрыклад, я цяпер гандлюю толькі савецкімі, беларускімі і сцягамі 9 Мая (георгіеўскімі — **Рэд.**). Але пасля апошніх падзеяў думаю адмовіцца і ад савецкіх, бо пашырыліся выпадкі, калі людзі вельмі агрэсіўна на гэта рэагуюць, аж да бойкі даходзіць. Я асабіста з такім не сутыкаўся, але мае сябры такое расказвалі.

**«НН»: Нядаўна распаўсюднік сцягоў у Мінску ўдарыў чалавека. Ведаеш штосьці аб гэтым?**

– Так, ведаю. Але ў інтэрнэце хлусня адная! Гэты хлопец — мой сябар, мы з ім разам футболам займаемся. Я яго выдатна ведаю — ён увогуле не агрэсіўны, добры чалавек. А раззлаваўся ён тады таму, што яму перашкаджалі працаваць і здымалі на камеру.

Ён можа гаварыць, насуперак стэрэатыпу. Шмат хто з нас можа гаварыць, але не чуюць. Ну вось і ён сказаў, што нічога не чуе, маўляў, адчапіцеся ад мяне. Але чалавек з камерай толькі пасмяяўся і як бы пагражаў, падштурхоўваў да бойкі, махаў нагамі. Таму мой сябра ударыў яго ў мэтах самаабароны. Той чалавек упаў, пачаў крычаць, відавочцы пачалі на гэта рэагаваць.

Таму мой сябра палічыў за лепшае сысці адтуль, каб не мець праблемаў. Сам ён не нападаў ні на каго.

**«НН»: Добра, але ўсё роўна распаўсюд сцягоў — гэта незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць. Табе вядома аб гэтым?**

– Можа быць, я не ведаю. Я хацеў бы зарэгістраваць ІП, але не ведаю як. Хаця гэта трэба рабіць, бо апошнім часам штосьці здарылася, і на нас проста так пачалі выклікаць міліцыю. Хоць мы гэтым ужо некалькі гадоў займаемся. Дык вось тых, каго ловяць — ім штрафы даюць.

**«НН»: А ў міліцыі не кажуць, што расійская і савецкая сімволіка ў Беларусі — гэта лішняе? Як гэта ўвогуле — прапаноўваць беларусам сцягі іншых краін?**

– Тут няма палітыкі. Разумееце, мы з вамі жывём як бы разам, але ў той жа час і ў розных рэаліях. Мы, так бы мовіць, у чымсьці адарваныя ад свету, бачым з вамі ў адным і тым жа розныя рэчы. Я сам, напрыклад, не прадаю расійскія сцяжкі, я ад гэтага адмовіўся. Але мае сябры прадаюць — ім гэта падабаецца, гэта прыносіць ім грошы. Бізнэс! Як кажуць: попыт нараджае прапанову. Калі я першы раз прадаваў савецкія сцягі — людзі сталі браць. Хто як рэагуе, але тым не менш — прадаваць савецкія сцягі выгадна. Сам я не ведаю, як стаўлюся да СССР. Я аб гэтым не думаю, проста прадаю. Ды і ўсім маім знаёмым таксама пляваць — Расія, Беларусь, СССР. Галоўнае — грошы.

**«НН»: Чаму не прадаяце тады бел-чырвона-белыя ці ўкраінскія сцягі?**

– Што да ўкраінскіх... Мне так здаецца, што тут мы пераймаем расійскія тэндэнцыі: што папулярнае там, тое мы прадаём і тут. А вось сцягі БНФ [бела-чырвона-белыя — **Рэд.**]... Я чую, што іх прадаваць забаронена. Не хачу непрыемнасцяў.

**Гутарыў Арцём Гарбацэвіч**

## Магілёўская фабрыка нарошчвае выпуск чырвона-зялёных бутаньерак, але працягвае вырабляць і «георгіеўскія» стужкі

Стужкі **з яблыневым цветам** можна набыць у крамах «Стужка».

Пашыраецца выпуск чырвона-зялёных бутаньерак з цветам яблыні. Як паведамілі на магілёўскай фабрыцы «Стужка», там цяпер вырабляюць да 5000 бутаньерак штодня.

Бутаньеркі з цветам яблыні былі задуманыя як неканфрантацыйны заменнік расійскім георгіеўскім стужкам. Такая патрэба ўзнікла пасля таго, як чорна-аранжавая стужка стала выкарыстоўвацца імперскімі сіламі.

Бутаньерку з цветам яблыні масава ўжывае на сваіх акцыях Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі (БРСМ). Ён спалучыў гэты знак з ініцыятывай па высадцы яблыневых садоў. У вёсках садзяць па 70 шчэпаў — па колькасці гадоў пасля Перамогі. У гарадах — хоць па некалькі сімвалічных дрэўцаў.

Стужкі з яблыневым цветам можна набыць у крамах «Стужка». Пакунак з 25 стужак каштуе 14 300 рублёў.

Георгіеўскія стужкі таксама прадаюцца ў крамах «Стужкі», а вось нацыянальных бел-чырвона-белых няма — забароненыя. Затое ёсць розныя стужкі з нацыянальным арнаментам.

**Мікола Бугай**



**Фотафакт**



**Прарасійскія «казакі» зладзілі вайсковыя зборы для падлеткаў пад Гроднам**

На сайце «казакоў» з'явіліся фотаздымкі «палявых заняткаў», праведзеных інструктарамі «вайскова-патрыятычнага цэнтра «Казачы спас» з беларускімі падлеткамі.

На апублікаваных фота відаць падлеткаў у камуфляжы і са зброяй у руках. Некаторыя з іх у берэтах з праваслаўным крыжам.

Пад кіраўніцтвам «казакоў» гэтыя дзеці адпрацоўваюць пэўныя баявыя сітуацыі. Пры гэтым на выгляд удзельнікам «палявых заняткаў» 13—15 гадоў.

**АГ**

# Як прэм’ер-міністр Радзіму любіў

**Адстаўнік Сяргей Сідорскі, ягоная жонка і дзве дачкі знайшлі сябе за мяжой.**

Ад лютага 2012 года Сяргей Сідорскі кіруе Міністэрствам прамысловасці ў Еўразійскай эканамічнай камісіі. Фактычна, пасля гадавога адпачынку ад цяжкай ношы прэм’ер-міністра, якую той нёс з 2003 па 2010, Радзіма зноў заклікала Сяргея Сяргеевіча і адправіла за мяжу.

Трэба думаць, што за 10 гадоў знаходжання ва ўрадзе Сяргей Сяргеевіч пакінуў пасля сябе выдатную спадчыну. Бо столькі гадоў упартай працы не маглі прайсці дарма!


Сяргей і Людміла (злева) Сідорскія.

**Жыллё ў Мінску пра запас**

Элітная нерухомасць засталася ў Сідорскіх і ў Мінску. У сярэдзіне 2000-ых прэм’ер-міністр атрымаў дом у Драздах, самым дарагім раёне Мінска. Катэдж Сідорскіх быў адным з найбольшых сярод чыноўнікаў — больш за 630 м2.

А адразу пасля будаўніцтва ў Драздах прэм’ер-міністр падарыў дачцэ Аксане кватэру ў элітным новабудзе на вуліцы Чэхава — трохпакаёўка займае амаль 150 м2. Гэтая кватэра па цяперашняй рынкавай цане каштуе $400—700 тысяч.


«Нас і тут някепска кормяць!» — у дворы дома Аксаны Сідорскай.

Першымі ад гэтай спадчыны з’ехалі старэйшая дачка Алена з мужам Віталём ў Германію. Там першы зяць прэм’ер-міністра — Віталь Мельнікаў — кіраваў прадстаўніцтвам канцэрна «Белнафтахім» у Франкфурце-на-Майне. Менавіта ў выкарыстанні Алены для адмывання грошай амерыканцы падазравалі Сяргея Сідорскага. Прадстаўніцтва ў Германіі некалькі гадоў таму закрылася, аднак у Беларусі Алена Сідорская пасля таго так і не засвяцілася.

Другой не вытрымала шчасця жыць у Беларусі іншая дачка чыноўніка. Аксана Сідорская з мужам Юрыем Марковічам з’ехалі ў Маскву і сталі індывідуальнымі прадпрымальнікамі. Інфармацыя пра іх дзейнасць даступная на сайце расійскай падатковай інспекцыі.

**Сяргей Сідорскі**

Нарадзіўся ў 1954 у Гомелі. Скончыў Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту. У 1976—1992 працаваў на Гомельскім заводзе радыётэхналагічнага абсталявання на пасадах ад майстра ды дырэктара. У 1992—1998 — кіраўнік НПА «Ратон», у 1998—2001 — намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкама. У 2001—2003 — намеснік, першы намеснік прэм’ер-міністра. У 2003—2010 — прэм’ер-міністр. Міністр па прамысловасці і аграпрамысловым комплексе Еўразійскай эканамічнай камісіі (з 2012). Жанаты. Мае дзвюх дачок.

**Людміла Сідорская**

Жонка прэм’ер-міністра Людміла была дарадцам прадстаўніцтва «Дома Масквы». «Дом Масквы» адкрыўся ў Мінску ў 2009 для дапамогі гандлёва-эканамічнаму і культурнаму супрацоўніцтву Беларусі і расійскіх рэгіёнаў.


Кватэра ў гэтым доме каштавала 1 мільён даляраў.

Паводле выпісак з падатковай, і Аксана, і Юрый з’яўляюцца грамадзянамі Расіі. Дакументы яны атрымалі яшчэ ў 2012 годзе ў Калінінградзе.

Сідорская-малодшая зарэгістраваная ў Таганскім раёне Масквы. У расійскім рэестры нерухомасці яна ўказаная як уласніца кватэры ў доме па вуліцы Талаліхіна, 8.

Кошт кватэры плошчай 80 квадратных метраў — каля 35 мільёнаў рублёў, на момант набыцця Аксанай Сідорскай (у выпісцы значыцца красавік 2014 года) нерухомасць каштавала каля мільёна даляраў.



**Жонка, дачка і зяць Сідорскага зарэгістраваліся як ІП у Расіі**

Аксана (злева) і Людміла Сідорскія

Дом настолькі велізарны, што ў яго ёсць уласны ўнутраны дворык на ўзроўні другога паверха з альтанкай, дзе шпацыруюць мамы з калясkамі.

Пікам іроніі з’яўляецца кот з мульціка, які вядомы сваёй цытатай: «Таіці, Таіці... нас і тут нядрэнна кормяць», помнік якому стаіць у двары дома.

Трэцяй (і апошняй) пакінула Беларусь жонка Сяргея Сідорскага — Людміла. Не доўга думаючы, і яна адкрыла ІП у Расіі.

Прычым у зяця і дачкі віды дзейнасці на 80% супадаюць з відам дзейнасці жонкі экс-прэм'ера — вось што значыць сапраўдны сямейны бізнэс.

Цікава так выходзіць, што найлепшыя прадпрымальніцкія здольнасці заўсёды чамусьці ў сваякоў чыноўнікаў: жонак, дзяцей, братоў, сясцёр... Чым вышэйшая пасада, тым большы камерцыйны поспех сваяка.

Але верх крывадушнасці ў тым, што менавіта пры Сідорскім у Беларусі забаранілі іпэшнікам наймаць работнікаў. І што робіць уся яго сям’я, як толькі з'язджае з Беларусі? Так, заводзіць ІП у Расіі, дзе гэтая забарона не дзейнічае.

Трэба пастарацца адпрацаваць так, каб пасля сыходу з пасады прэм'ер-міністра ўся твая сям'я палічыла за лепшае раз'ехацца па замежжах і змяніць грамадзянства, чым заставацца на Радзіме.

А яна ў нас з вамі адна, і іншай не будзе.

**Паводле: Анатоль Міцура, livejournal.com**

# Блогер са штаба Навальнага расследуе жыццё беларускіх чыноўнікаў

Анатоль Міцура, 25-гадовы блогер з Масквы, узварушыў медыяпрастору Беларусі выдатным расследаваннем пра маёмасць экс-прэм’ера Сяргея Сідорскага. З гэтай нагоды «НН» вырашыла спытаць у Анатоля: нашто яму ўсё гэта патрэбна?

Міцура нарадзіўся ў Мазыры. Пасля школы паступіў на юрфак БДУ і вывучыўся на палітолага.



«Найбольшую цікавасць ў мяне выклікалі выбары. Але прымяняць навыкі не было дзе», — прызнаецца Анатоль. Працягваць навучанне ён вырашыў у Вышэйшай школе эканомікі (ВШЭ) у Маскве. Заняў прызавое месца на алімпіядзе і гарантаваў сабе месца ў расійскім універсітэце.

У 2013, калі праходзілі выбары мэра Масквы, знаёмы Анатоля прапанаваў яму папрацаваць у штабе Аляксея Навальнага — і Міцура пагадзіўся.

«У той год было прынята рашэнне аб допуску апазіцыйных палітыкаў да ўдзелу ў выбарах, і выбары сапраўды былі канкурэнтнымі. У штабе Навальнага я заняў месца ў юрыдычным аддзеле — тут мне і спатрэбілася мая спецыяльнасць, атрыманая ў БДУ», — кажа Анатоль.

Пасля выбараў хлопец застаўся працаваць у фондзе Навальнага, а летась Анатоль уладкаваўся ў ВШЭ. Там ён і працуе цяпер, у экспертна-аналітычным аддзеле лабараторыі палітычных даследаванняў.

У Навальнага Міцура і падгледзеў ідэю расследаванняў жыцця заможных чыноўнікаў. «Я фактычна знутры бачыў, як рыхтуюцца гучныя праекты пра лецішчы чыноўнікаў і карупцыю на Алімпіядзе ў Сочы. І быў уражаны, якія сумы «распілоўваюцца», якія дамы адбудоўваюцца і якія зарплаты прызначаюць сабе чыноўнікі, — распавядае Міцура. — Менавіта тады і з’явілася ідэя зрабіць сваё расследаванне пра Кастагорава».

Віталь Кастагораў, беларускі сенатар, якога затрымалі за ўхіленне ад сплаты падаткаў, і стаў першай «ахвярай» маладога блогера. Міцура даказаў, што сенатар меў расійскі пашпарт і кватэру ў Маскве. Кошт маскоўскага жылля склаў каля $1,5 мільёна. Расследаванне Анатоля выклікала вялікі рэзананс у беларускіх СМІ. Праўда, на лёс самога Кастагорава гэта не паўплывала — яго хутка выпусцілі пад заклад.

Наступны матэрыял быў прысвечаны расійскім «прыгодам» былога беларускага прэм’ера Сяргея Сідорскага.

«Часам шукаеш інфармацыю, якая даступная проста ў інтэрнэце, і ў выніку па макулінках складваецца карцінка, — расказвае Міцура. — Чапляецца адно за адно, прозвішча за прозвішча, і знаходзіцца нешта новае, што запісваеш у нататнік, каб не забыцца і вярнуцца да яго, калі скончыш гэтае расследаванне».

Матэрыял пра Сідорскага не апошні. Анатоль анансуе працяг гісторыі, але раскрываць падрабязнасці пакуль не хоча: маўляў, усяму свой час.

Свае высілкі па пошуку інфармацыі Міцура не лічыць дарэмнымі, хоць гэта і не прыносіць яму грошай, а толькі займае вольны час.

«Калі з’явяцца ахвотныя рабіць нейкія сумесныя расследаванні, я б паўдзельнічаў, бо разам можна працаваць больш прадуктыўна, — кажа Анатоль. — Я неабыякавы да лёсу краіны і хацеў бы зрабіць яе лепшай. Ад такіх расследаванняў ёсць карысць. Калі паказваеш нахабства, прагнасць, падаеш факты, людзі разумеюць, хто нібыта клапоціцца пра краіну, а на справе рыхтуе сабе цёплае месца за мяжой.

**Улад Швядовіч**

# Топ-5 самых дарагіх катэджаў краіны

Цэны дасягаюць **$2,5 мільёна**.

Пасля валютнага крызісу цэны на нерухомасць павольна папаўзлі ўніз. Але гэта датычыцца перадусім кватэр у гарадах, дзе цэнаўтварэнне зболышага празрыстае.

А вось элітная нерухомасць жыве па сваіх законах. Цана самых дарагіх дамоў перавышае $2 мільёны, але гэта хутчэй дэкларацыя аб намерах. За такую суму беларускую нерухомасць ніхто не купляе — маючы свабодныя грошы, можна пабудаваць такі самы дом значна танней. Нейкі час пражыўшы з марай пра багатага замежнага купца, рыэлтары зніжаюць цану.




## 1. $2,5 мільёна — за від на Каменную Горку

Самым дарагім домам цяпер стаў цагляны катэдж у Тарасаве. Гэта некалькі кіламетраў ад Мінска.

Італьянская абліцовачная плітка, нямецкая сантэхніка, мармуровыя падлогі... І нават уласная свідравіна глыбінёй 110 метраў пад домам. Да асабняка прыкладаецца 0,21 га зямлі.

Патэнцыйных купцоў заахвочваюць «панарамным відам на Мінск», не ўдакладняючы, што назіраць давядзецца за чалавечым мурашнікам Каменнай Горкі.




## 2. $2,235 мільёна — за вітанне з 1990-х

Летась гэты катэдж у Калодзішчах (10 км ад Мінска) прадавалі за $2,6 мільёна, але няўдала. Цяпер дом уцанілі на $365 тысяч — добрая зніжка.

Будынак высачэзны, у ім чатыры ўзроўні агульнай плошчай 937 м². «Пяць спальняў, пяць санвузлоў, лазня, басейн, два гаражы», — расхвальваюць дом прадаўцы.

Самае запамінальнае ў катэджы — бясконцы залацісты колер, своеасаблівае прывітанне з 1990-х. Падобныя інтэр'еры з безліччу статуэтак, карцін на сценах і каваных упрыгожванняў падабаліся чыноўнікам з акружэння беглага ўкраінскага прэзідэнта Віктара Януковіча.






## 3. $2,1 мільёна — за дом на дзве сям'і ў Драздах

Катэдж у самым дарагім раёне Мінска можна купляць у складчыну, на дзве сям'і. Дзве сіметрычныя паловы дома (па 334 м² кожная) аб'яднаныя басейнам на цокальным паверсе. Адна з іх ужо гатовая для пражывання, другая аздабляецца.

Пад домам усяго 7 сотак зямлі, участкі пад гэтым і суседнімі катэджамі на вуліцы Піянерскай прадаваліся праз аўкцыён.




## 4. $2,1 мільёна — за «правільную планіроўку»

«Дом для людзей з панящем і густам», — запэўніваюць прадаўцы і катэгарычна дадаюць, што ў катэджы плошчай 430 м² «правільная планіроўка». Тры спальні, два гаражы, лазня, тэраса, цёплая падлога — звычайны набор для элітнага катэджа, але блізкасць да вады дазваляе прасіць за дом нашмат большыя грошы. Вуліца Пастаўская ў Мінску знаходзіцца каля Цнянскага вадасховішча.



## 5. $1,99 мільёна — за шкляную сядзібу ў лесе

Самая дарагая нерухомасць на аддаленні ад Мінска схавалася ў вілейскіх лясах, каля вёскі Будзькі.

Асноўны дом мае каля 200 м² агульнай плошчы і пабудаваны са шкла з аздабленнем дрэвам.

Для гасцей прапануецца цалкам драўляная хатка плошчай 80 м² з дзвюма спальнямі і камінам. У дадатак — дом для аховы і тэнісны корт.

На беразе штучнага возера пабудаваная спа-зона. Тут знаходзяцца дзве саўны, а таксама джакузі.

Але галоўнае — гіганцкія абшары зямлі, ажно 250 сотак у лесе.

**Ягор Марціновіч**




## Сціслa

### Грэцыя гатова аб'явіць дэфолт?

Пра гэта піша газета Financial Times са спасылкай на крыніцы ў грэцкім урадзе. Дэфолт магчымы, калі не ўдасца дасягнуць пагадненняў з міжнароднымі крэдыторамі да канца красавіка. Урад спрабуе знайсці грошы, каб выплаціць у красавіку зарплаты дзяржслужбоўцам і пенсіі на агульную суму 2,4 мільярда еўра. А доўг перад МВФ на бліжэйшыя месяцы складае яшчэ $2,5 мільярда.

### Дэпазіты апусціліся да 35%

Беларускія банкі масава апусцілі стаўкі па дэпазітах. Чарговая мяжа — 35% гадавых. Нацбанк заахвочвае да зніжэння ставак для стабілізацыі эканомікі.

### На Камароўцы адкрыюць «Рыжскі куток»

У спецыяльнай краме будуць прадавацца тавары з Латвіі. Гэтая мадэль некалькі гадоў паспяхова працавала ў Расіі, але праект быў спынены праз санкцыі. Крама беларускіх тавараў тым часам з'явіцца на Рыжскім цэнтральным рынку.

### Лукашэнка прапануе абраць перспектыўныя вёскі

Ён прапануе ў дадатак да аграгарадкоў у кожным раёне вызначыць па некалькі перспектыўных вёсак і забудоўваць іх даступным жыллём. Паводле яго словаў, такімі вёскамі могуць быць былыя цэнтры калгасаў.

**ЯМ**

# Генпракурор: неэтычна, каб чыноўнікі агалошвалі дэкларацыі аб даходах

Сам **Аляксандр Канюк** мае ва ўласнасці сціплую маёмасць.

Дэкларацыі аб даходах беларускіх чыноўнікаў па-ранейшаму не будуць даступныя грамадскасці. Распрацоўшчыкі закона «Аб барацьбе з карупцыяй» праігнаравалі прапановы аб увядзенні абавязковай публікацыі такіх дакументаў у прэсе.

«Мне здаецца, што гэта не зусім этычна», — заявіў падчас выступу ў палаце прадстаўнікоў генеральны пракурор Аляксандр Канюк. «Навошта гэта рабіць? Задавальняць абывацельскую цікаўнасць пра тое, у каго што ёсць?» — тлумачыў ён сваю пазіцыю, якая карэнным чынам адрозніваецца ад агучанага меркавання Аляксандра Лукашэнкі.

«Народ павінен ведаць, як жывуць чыноўнікі і іх сваякі, адкуль грошы і ўласнасць у гэтых людзей, — заяўляў кіраўнік дзяржавы на нарадзе аб удасканаленні заканадаўства па барацьбе з карупцыяй. — Гэта, па-мойму, нармальная міжнародная практыка».



**Аляксандр Канюк**

Нар. у 1960 у Гродне. Скончыў БДУ (1982). Служыў камандзірам мотастралковага ўзвода Беларускай вайсковай акругі ў Барысаве (1982—1984), судовым сакратаром у Кызыл-Ардзінскай вобласці ў Казахстане (1984—1985), судовым сакратаром і старэйшым судовым сакратаром у Кабуле (Афганістан) (1985—1987).

З 1987 — член вайсковага трыбунала Мінскага гарнізона, з 1993 — суддзя Беларускага вайсковага суда, з 1997 — суддзя і старшыня Мінскага міжгарнізоннага вайсковага суда. З 2006 — суддзя і старшыня Беларускага вайсковага суда. З 2009 года — намеснік старшыні, старшыня вайсковай калегіі Вярхоўнага Суда. З верасня 2011 — генеральны пракурор.

«Наша Ніва» спрабуе скласці публічную дэкларацыю аб маёмасці Аляксандра Канюка і яго сям'і. Зрэшты, беларускія чыноўнікі і цяпер падаюць у падатковую інспекцыю дэкларацыі блізкіх сваякоў.

Нагадаем, Канюк нарадзіўся ў Гродне, аднак з'ехаў адтуль яшчэ ў юнацтве. Пасля вучобы на юрыдычным факультэце БДУ і некалькіх гадоў службы ў вайсковых трыбуналах у Казахстане і Афганістане ён у 1987 годзе асеў у Мінску.

На той момант у сям'і Аляксандра і Святланы Канюкоў падрастаў сын Уладзімір (ён трагічна загінуў у 2004). Праз год пасля вяртання ў Беларусь нарадзіўся малодшы, Дзмітрый.

Як работнік вайсковага суда, Канюк пасяліўся з сям'ёй у трохпакаёўцы на вуліцы Рагачоўскай у вайсковым гарадку за Уруччам (цяпер мікрараён Вялікі Лес). Мы не маем інфармацыі, ці гэта было службовае жыллё, аднак цяпер яно не знаходзіцца ў дзяржаўным фондзе.

У пачатку 2010-х Канюкі вырашылі пабудаваць новае жыллё, аднак раён пражывання змяняць не хацелі. Яны ўклалі грошы ў будоўлю кватэры з вокнамі на праспект Незалежнасці. Ад дома па адрасе Ложынская, 5 да станцыі метро «Уручча» — літаральна 100 метраў.

25-павярховы будынак узводзіла прыватнае ААТ «10 УНР-інвест». Гэта не дом павышанай камфортнасці, але нейкія правы высокага ўзроўню жыцця у ім ёсць — напрыклад, тры фінскія ліфты і кансьерж у пад'ездзе. Апроч таго, дом энергаэфектыўны. Забудоўшчык запэўніваў, што за ацяпленне жыхары будуць плаціць у 3—4 разы менш, чым налічваецца ў іншых дамах.



Сын генеральнага пракурора займаецца інфармацыйнымі тэхналогіямі. Ён працуе ў кампаніі TurboHeads (рэзідэнт Парка высокіх тэхналогій), адзін з праектаў якой — анлайн-бухгалтэрыя «Асістэнт».

Для таго, каб займець кватэру ў доме па Ложынскай, трэба было купіць аблігацыі на адпаведную колькасць квадратных метраў. Кожная аблігацыя каштавала каля $1400. Такім чынам, за двухпакаёўку плошчай 60 м² Канюкі маглі заплаціць каля $85 тысяч. Зрэшты, праз хаос з курсамі падчас валютнага крызісу і магчымую разбіўку плацяжоў на розныя месяцы зрабіць дакладны падлік кошту кватэры немагчыма.

Дом здаваўся без аддзелкі — усталяваны толькі ўнітаз, — таму ўвесь рамонт Канюкі рабілі з нуля.

Кватэра была здадзена ў эксплуатацыю ў чэрвені 2012 года. На той момант Канюк ужо стаў генеральным пракурорам. Нерухомасць зарэгістраваная на яго жонку Святлану. Апошнія гады яна на пенсіі.

На дадзены момант кватэры ў доме прадаюцца па цане ад $1915 за квадратны метр. Такім чынам, жыллё генеральнага пракурора цяпер каштуе каля $110—115 тысяч.

Жыхары дома маюць цяжкасці з паркоўкай — свабодных месцаў для аўто катастрафічна не хапае. Праблему мог вырашыць падземны паркінг, але машына-месца ў ім каштавала $16 тысяч. На такую інвестыцыю пайшлі нямногія, Канюкі таксама не сталі ўкладаць дадатковыя грошы.

Неўзабаве пасля засялення ў новую кватэру генеральнаму пракурору выдзелілі яшчэ і ўчастак для будаўніцтва ў Вяснінцы («Драздэ-2»). Зямля была атрыманая праз рашэнне Мінгарвыканкама №2931 ад 21 верасня 2012 года.

Канюку дасталася першая берагавая лінія. Ягоныя 15 сотак цалкам знаходзяцца ў водаахоўнай зоне вадасховішча Драздэ.

Фармальна праваўласнікам гэтых 15 сотак па-ранейшаму лічыцца дзяржава, аднак Канюк яе атрымаў па праве пажыццёвага спадчыннага валодання.

Рыэлтары не праводзяць ацэнкі «чыноўніцкіх» катэджаў, аднак цана чыстага ўчастка пад будаўніцтва дома ў Вяснінцы складае $300—600 тысяч. Для першай берагавой лініі яна, зразумела, будзе вышэйшай.

Гатовыя катэджы з аздабленнем у суседніх Драздах спрабуюць прадаць за $1,5—2 мільёны, аднак цана выглядае завышанай, бо аб'явы аб продажы застаюцца ў базах рыэлтарскіх агенцтваў больш за год.

Зрэшты, пакуль што Канюк будоўлю ў Вяснінцы не пачынаў. Пляцоўка пад дом выраўненая і расчышчаная, але не больш за тое.

**Ягор Марціновіч**



Дом на Ложынскай, выгляд з праспекта Незалежнасці.



Прыбярэжны ўчастак у Драздах пакуль пусты.

# Дабро перамагло метро

Сям'я, чый дом перашкаджаў будаўніцтву, **дабілася справядлівасці.**

Мінская сям'я Брэляў тры гады адмаўлялася пераязджаць, бо жыллё, якое ім прапанавалі, не адпавядала нормам заканадаўства. Нарэшце ў іх справе пастаўленая кропка — патрабаванні Брэляў задаволілі. Як кажа галава сям'і, гэта адбылося пасля таго, як пра іх даведаўся старшыня Мінгарвыканкама Андрэй Шорац.

Дом Брэляў апынуўся фактычна пасярод будоўлі будучай станцыі метро «Вакзальная». Але з'язджаць яны адмаўляліся, бо на малодшага сына не налічылі адпаведную колькасць метраў. Брэлі вырашылі стаяць на сваім, пакуль іх законныя патрабаванні не выканаюць. І як ні дзіўна, у іх атрымалася дабіцца свайго.

«Акрамя трохпакаёўкі, якую прапанавалі спачатку, нам усё ж далі яшчэ адну кватэру, аднушку. Нарэшце ўсё зрабілі па законе. І мы з'ехалі», — распавядае Іван Брэль.

Ён кажа, што інфармацыя пра іх дайшла да старшыні Мінгарвыканкама Андрэя Шорца, які і даў каманду гэтую праблему вырашыць. У пачатку сакавіка судовыя выканаўцы зрабілі апошнюю спробу выселіць сям'ю з іх дома на ўскрайку будаўнічага катлавана. Але на той момант гісторыя Брэляў ужо «засвяцілася» ў шматлікіх СМІ, у тым ліку і ў «Нашай Ніве». Тады прыставы прынялі «саламонава рашэнне»: Іван з двума малодшымі сынамі і сваім бацькам пакінулі памяшканне, але ў доме засталася жонка Наталля з немаўлём.

А на наступны дзень да Брэляў у госці завітаў сам Павал Царук, кіраўнік Дырэкцыі па будаўніцтве Мінскага метрапалітэна. «Ён спытаў, што мы хочам. Мы адказалі, што хацелі б яшчэ адну кватэру, пажадана побач з той трохпакаёўкай. Гэта было немагчыма. Але нам прапанавалі тры варыянты ў розных месцах. Мы выбралі кватэру на Алібегава. Вось і ўсё».

Рамонт у кватэрах тыпавы, кажа Брэль. Прэтэнзій у сям'і няма. Усё, за што яны змагаліся, яны атрымалі. Але сам Іван кажа, што вынікам барацьбы стала нічыя.

«Кватэрнае пытанне вырашылі, але, наколькі я ведаю, ніхто з тых, хто ваяваў з намі гэтыя тры гады, не быў прыцягнуты да адказнасці, — тлумачыць ён. — Таму перамогай гэта не назавеш. Проста ўсё па законе».

На развітанне Брэль параіў не здавацца тым, хто адстойвае свае законныя правы.

«Я хачу пажадаць усім, хто змагаецца за свае правы: працягвайце барацьбу, — кажа Іван. — Мы не наймалі адвакатаў, нікому не плацілі, проста змагаліся за свае правы. Наша гісторыя — прыклад таго, што ўласнымі сіламі і ўласным розумам можна перамагчы».

**Улад Швядовіч**

# Уладзімір Някляеў заявіў пра выхад з апазіцыйных структур

«Двухгадовыя перамовы беларускай апазіцыі па вылучэнні адзінага кандыдата і вызначэнні сумеснай праграмы на прэзідэнцкія выбары 2015 **завяршыліся безвынікова**», — гаворыцца ў заяве Някляева.

«У сувязі з гэтым заяўляю аб сваім выхадзе з апазіцыйных структур, у тым ліку з грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду», актывістам якой я назаўжды ўдзячны за працу і падтрымку. Незалежнасць і дэмакратычная будучыня Беларусі застаюцца для мяне найважнейшай каштоўнасцю. Дзеля гэтага я буду працаваць і далей», — падкрэслівае палітык.

Аб выхадзе з апазіцыйнай кааліцыі (у яе ўваходзяць «Гавары праўду», Партыя БНФ, рух «За свабоду», Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), Аб'яднаная грамадзянская партыя, Беларуская партыя левых «Справядлівы свет») Уладзімір Някляеў заявіў 8 красавіка на пасяджэнні «сямёркі», дзе безвынікова абмяркоўвалася пытанне аб скліканні Кангрэсу дэмакратычных сіл і вылучэнні на ім адзінага кандыдата ў прэзідэнты.

Дарэчы, адметна, што прапанову Някляева аб правядзенні Кангрэсу дэмакратычных сілаў па абранні адзінага кандыдата падтрымалі ўсе ўдзельнікі сустрэчы, апроч сваёй жа «Гавары праўду» і Партыі БНФ.

7 красавіка рэспубліканская рада «Гавары праўду» прыняла рашэнне вылучаць кандыдатам у прэзідэнты актывістку кампаніі Таццяну Караткевіч. Лідарам «Гавары праўду» ж стане былы намеснік Андрэй Дзмітрыеў.

ЗП


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Міколу Статкевіча чакае новы суд

«Адміністрацыя калоніі вырашыла, што ён настолькі «не стаў на шлях выпраўлення» і «мае намер весці злачынны лад жыцця», што яго далейшае ўтрыманне ў гэтай высокамаральнай установе немагчымае», — напісала на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку» Марына Адамовіч, жонка палітвязня Міколы Статкевіча.

«Таму 9 красавіка нейкая там камісія ў шклоўскай ПК-17 вырашыла адправіць яго на турэмны рэжым да канца тэрміну. Калі суд, мне невядома. Якія-небудзь падрабязнасці таксама. Ведаю толькі, што на сёння ў яго 13 спагнанняў, з якіх 10 — за «адмову ад працы», — патлумачыла яна.

Па словах Марыны Адамовіч, Мікола Статкевіч знаходзіцца ў памяшканні без дзённага святла, яму дазваляюць прагулку працягласцю паўгадзіны на дзень.

Паводле словаў Адамовіч, праблемы з адміністрацыяй у Статкевіча пачаліся адразу пасля пераводу ў шклоўскую калонію з магілёўскай турмы і ўзмацніліся пасля таго, як 24 сакавіка ён напісаў заяву аб адмове ад незаконных работ па самаабслугоўванні. Як растлумачыла Адамовіч, такія работы ўсе зняволеныя павінны выконваць па чарзе, прычым не больш за дзве гадзіны ў дзень, але ў дачыненні да Статкевіча гэтыя нормы адміністрацыя не выконвала.

МБ

## Ізноў адліга?

16—17 красавіка Мінск наведае **еўракамісар Ёханэс Хан.**

Гэта значыцца ў графіку камісара па пытаннях пашырэння і палітыкі добрасуседства на афіцыйным сайце Еўрапейскай камісіі. Варта адзначыць, што за дзень да прыезду ў Мінск палітык сустрэнецца з беларускім праваабаронцам Алесем Бяляцкім.

Факт візіту пацвердзілі «Нашай Ніве» ў прэс-службе прадстаўніцтва Еўракамісіі ў Мінску. Праўда, паведаміць графік сустрэч чыноўніка не змаглі.

Калі меркаваць з досведу папярэдніх візітаў, то еўракамісар можа мець сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам, міністрам замежных справаў Уладзімірам Макеем, а таксама прадстаўнікамі апазіцыі і грамадзянскай супольнасці.

Апошні раз еўрапейскі камісар па пытаннях пашырэння і добрасуседства наведваў Беларусь у 2010 годзе. Тады папярэднік



Ёханэса Хана Штэфан Фюле двойчы прылятаў на перамовы ў Мінск.

Пасля разгону паслявыбарчых пратэстаў такія кантакты былі замарожаныя. Як бачым, цяпер пачынаецца новы віток адносін.

Ёханэс Хан заняў сваю пасаду 1 лістапада 2014 года. Яму 57 гадоў, сябра кансерватыўнай Аўстрыйскай народнай партыі. Да гэтага чатыры гады ён быў еўракамісарам па рэгіянальнай палітыцы.

ЗП



## У Пясках з гранатамёта паранены беларускі баец Леў

На мінулым тыдні стала вядома пра збор грошай для параненага беларускага байца «Правага сектара» Льва. Яму патрэбны кампрэсійна-дыстракцыйны апарат Ілізарава. Мы патэлефанавалі ў днепрапятроўскі шпіталь, дзе цяпер знаходзіцца на лячэнні беларус.

**«Наша Ніва»: Калі Вас параніла, як увогуле цяпер маецеся?**

**Леў:** Ды ў прынцыпе ўсё нармальна. Параніла мяне ў Пясках. Меркавана, што з АГС [аўтаматычны гранатамёт станковы — **«НН»**]. Гэта адбылося 17 сакавіка, ужо пасля так званага «перамір'я». Баі там не спыніліся ні на дзень. Пастрэльваюць ад раніцы да вечара.

**«НН»: Працуе ў асноўным артылерыя?**

**Л:** Ды не, не толькі. Працуюць снайперы. Прынамсі, калі я там быў. Цяпер там ужо крыху іншая вайна, і працуюць, сапраўды, артылерыя і мінамёты.

**«НН»: Вас параніла ў нагу?**

**Л:** Так, у нагу. Яшчэ адзін асколак трапіў у правую скронь. Мне яшчэ пашанцавала, што так лёгка абышлося. На наступны дзень я быў у Красна-армейску, дзе вайсковыя лекары зрабілі ўсё магчымае. Хірургі вельмі добра склалі маю нагу, прафесары ацанілі іх работу высока. Мне сказалі, што праз паўтара месяца можна пачынаць ступаць на нагу. Гэта ўсё ж адкрыты перелом, таму цяжка гоіцца.

**«НН»: Калі я званіў вам у верасні, то вы былі ў батальёне «Данбас», цяпер у «Правым сектары». Чаму?**

**Л:** Усё правільна. Нам абяцалі легалізацыю ў «Данбасе». Здаецца, Авакаў казаў, каб паваявалі крыху, а пасля гэтае пытанне вырашыцца. Праўда, так нічога з гэтым і не зрушылася. У «Правым сектары» я каля двух месяцаў. У Пясках я ж прабыў усяго тыдзень. Гэта такая няшчасная выпадковасць. Ішоў на пазіцыю, адбыўся выбух. Нікуды схавацца не ўдалося.

**«НН»: Вы ўжо не першы раз з'яўляецеся ў навінах, можа, раскажаце нешта пра сябе?**

**Л:** Я родам з Маладзечна. У Беларусі быў у руху «Зубр». Потым гэтая арганізацыя развалілася. Ніякай іншай альтэрнатывы «Зубру» я не знайшоў. Я шмат падарожнічаў па Еўропе — Нарвегія, Іспанія і іншыя краіны. Проста было цікава людзей паглядзець, як у гэтых краінах усё арганізавана.

**«НН»: Вы ж да Украіны не бралі ўдзелу ў баявых дзеяннях?**

**Л:** Займаўся рукапашным боем, баявымі адзінаборствамі. Ведаеце, гэта, па вялікім рахунку, тое самае. Адзінае, што рознае ўзбраенне. У баявых мастацтвах ты карыстаешся халодной зброяй, а тут іншая зброя.

**«НН»: Якую для сябе перспектыву бачыце?**

**Л:** Я думаю, што перспектыва ў мяне па-любому ёсць. А ва Украіне ці дзесьці яшчэ — гэта ўжо не так важна. Калі былі б нармальныя магчымасці, то я з радасцю застаўся б вайскоўцам. Але я крыху расчараваны. У войска прызываюць тых, хто не гатовы і не хоча змагацца за краіну. Іх хочуць прымусіць, але ж гэта немагчыма. А тыя, хто гатовыя да рэальнай барацьбы, нейкім дзіўным чынам трапляюць у «мясарубкі», дзе частка байцоў гіне, а частка атрымлівае раненні.

Гутарыў Зміцер Панкавец

## Гайдукевіч прапанаваў пасады «ва ўрадзе» васьмі апазіцыянерам

Але толькі ў тым выпадку, калі яны **яго падтрымаюць** на прэзідэнцкіх выбарах.

Кіраўнік Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі Сяргей Гайдукевіч выступіў з нечаканай прапановай апазіцыйным дзеячам. Ён у чарговы раз заявіў пра свой намер паўдзельнічаць у бліжэйшых прэзідэнцкіх выбарах. У выпадку, калі яго кандыдатуру падтрымаюць апазіцыянеры, Гайдукевіч гатовы запрасіць іх «ва ўрад».

Аляксандру Мілінкевічу (рух «За свабоду») прапанаваная пасада віцэ-прэм'ера, Уладзіміру Някляеву (былы кіраўнік кампаніі «Гавары праўду») — намесніка міністра культуры, Таццяне Караткевіч («Гавары праўду») — начальніка ўпраўлення Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, Андрэю Дзмітрыеву («Гавары праўду») — намесніка міністра фінансаў, Аляксею Янукевічу (Партыя БНФ) — намесніка міністра працы і сацыяльнай абароны, Віталю Рымашэўскаму (аргкамітэт па стварэнні партыі БХД) — начальніка ўпраўлення Міністэрства спорту і турызму, Паўлу Севярынцу (БХД) — старшыні камітэта пры Саўміне па справах рэлігій, Сяргею Калякіну (Беларуская партыя левых «Справядлівы свет») — міністра працы і сацыяльнай абароны.



Прэс-служба ЛДПБ адзначае, што Сяргей Гайдукевіч вырашыў пайсці на такі крок «з улікам сітуацыі, якая склалася ў апазіцыі, і немагчымасцю высунуць адзінага кандыдата ў прэзідэнты».

«Еўрарадыё»

# У супермаркеце «Еўраопт» у Мінску адбылася масавая бойка

Каля трыццаці маладых людзей узялі ўдзел у масавай бойцы каля супермаркета «Еўраопт» на вуліцы Налібоцкай у мікрараёне Каменная Горка ў Мінску. У «разборцы» бралі ўдзел як хлопцы, так і дзяўчаты ад 15 да 25 гадоў. Імаверна, гэта былі жыхары прылеглых дамоў.

Сведкам бойкі быў карэспандэнт «Нашай Нівы». Каля 19.30 12 красавіка маладыя людзі пабіліся да крыві ў раёне крамы. Пасля тыя, што былі ў меншасці, адступілі ў сам супермаркет. Большасць іх пераследавала. Разборкі працягнуліся каля касаў. Міліцыі не было. Моладзь спрабавалі суняць супрацоўнікі крамы і наведнікі. Калі галоўны «праціўнік», юнак у сіняй майстарцы, схаваўся сярод крамы, ягоныя «ворагі» ачапілі выхады, але ён здолеў вырвацца і ўцячы ў кірунку вуліцы Прытыцкага.

Маладыя людзі ўсё яшчэ тусаваліся каля выхадаў з крамы каля 19.50. У сяго-таго з іх былі ў кроў разбітыя бровы і насы. Яны мелі даволі крымінальны выгляд: коратка стрыжаныя, са зламанымі насамі, сухашчавыя.

Паводле некаторай інфармацыі, бойка пачалася з таго, што падлеткі заступіліся за свайго 15-гадовага сябра, які счапіўся з тройкай 25-гадовых коратка стрыжаных хлопцаў з сяброўкамі.

**Сяргей Гезгала**

# На Краснасельскіх азёрах узмоцняць ахову

Райскія пейзажы крэйдавых кар'ераў усё яшчэ каштуюць **ад 3 да 10 базавых велічынь штрафу**.



Адміністрацыя прадпрыемства «Краснасельскбудматэрыялы» рыхтуецца да турыстычнага сезону, паведамляе «СБ». Папулярныя сярод турыстаў тэхналагічныя кар'еры будзе патруляваць Дэпартамент аховы, ужо закуплены новы эвакуатар. У бліжэйшы час кар'еры таксама пачне патруляваць міліцыя.

Вадаёмы, празваныя «беларускімі Мальдывамі», на самай справе небяспечныя: глыбіня дасягае 50 метраў, у вадзе шматлікія віры, а колькасць крэйды і шкодных бактэрый перавышае нормы ў 100 разоў.

Адміністрацыя просіць устрымацца ад купання ў азёрах і адпачынку на іх берагах. Просьба распаўсюджваецца і праз крэатыўны відэаролік на Youtube.

**Аляксандр Арсёнаў**



НАСТАССЯ ХРАЛОВІЧ

# У Кулінковіча інсульт

Neuro Dubel адмяняе аўтографсесію, якая павінна была прайсці 15 красавіка ў мінскай краме «Музыка» па вуліцы Якуба Коласа, 39. Прычынай адмены мерапрыемства стаў інсульт лідара гурту Аляксандра Кулінковіча. Пра гэтыя праблемы са здароўем беларускага музыкі паведамляе Onliner.by

Нагадаем, што 10 красавіка ў клубе «Рэпаблік» прайшла прэзентацыя новага альбома гурту «На Марс!». Канцэрт, які пачаўся з вялікім спазненнем, адзначыўся далёкім ад дасканаласці выкананнем і не зусім адэкватнымі паводзінамі лідара гурту. Тым не менш, альбом быў даволі прыязна прыняты публікай.

У каментары Анлайнеру Кулінковіч заявіў, што яму стала блага ў грымёрцы перад выхадам на сцэну. «Шчыра кажучы, я не разумею, што са мной адбываецца: я нічога не памятаў і не арыентаваўся, дзе знаходжуся. Неяк прастаяў — выглядаў як вельмі п'яны».

Музыка сказаў, што перад выступам крыху выпіў каньяку, але гэта была не тая доза, ад якой можна так выглядаць.

# Прэзідэнт Венесуэлы засвяціў двайніка

Упершыню ў гісторыі двайнік кіраўніка дзяржавы **трапіў на відэа**.



Кадры, на якія трапіў двайнік Мадура і жонка прэзідэнта, размешчаны на YouTube-канале іспанамоўнай версіі тэлеканала CNN. Гэта адбылося падчас саміту Амерык у Панаме.

На відэазапісе відаць, як двайнік у суправаджэнні аховы садзіцца ў прэзідэнцкі лімузін, які накіроўваецца на саміт. Сам жа Мадура сціпленька едзе ў адной з другасных машын венесуэльскай дэлегацыі. Двайнік падобны да прэзідэнта целаскладам і вусамі.

Мадура паранаідальна баіцца замахаў на сваё жыццё.

У Панаме паміж прэзідэнтам ЗША Баракам Абамам і Мадурам адбылася кароткая размова. Па словах прэссакратара Белага дома Кэтрын Варгас, Абама запэўніў Мадуру, што Злучаныя Штаты не маюць намеру пагражаць Венесуэле. Акрамя таго, Абама выказаўся ў падтрымку мірнага дыялогу паміж урадам і апазіцыяй.

**СГ**

# Адзін свет — два дзяцінствы



Ехаў я на каталіцкую Вербніцу з Вільні ў Мінск, са старой беларускай сталіцы ў новую. Першы дызель рана ідзе, я выйшаў з гатэля без дзесяці сем. Пайшоў на вакзал пехам. Транспарт у Літве дарагі, таму чаго б не зэканоміць. Дый адна ўцеха — вясна, муры старой Вільні ў тумане. На Віленскай вуліцы, якая за праспектам Гедыміна, гоман. Моладзь раз'язджаецца з моднага начнога клуба, даносіцца ум-ца-ца. Няўжо і мы калісьці так да ранку танцавалі? Нават не верыцца.

«Здрастуйте!» — нехта ляпнуў мяне па плячы.

А, Даніла!

Я пазнаў сына аднаго майго знаёмага па справах — кіраўніка вялікай беларускай адукацыйнай канторы. Я быў у яго нядаўна на вячэры, і гэты юнак мяне, бачыш ты, запомніў. Галаву яму яўна ўскружыла музыка, ну і алкаголь. З твару ён выглядае старэйшым за свае гады, вусы і барода прабіліся, хоць плечы вузкія, і таму яго прапусцілі, пашпарта не спыталіся. Хоць яму толькі 16, і піць яму ранавата, дый тусавацца, па-мойму, таксама. Каля яго дзве дзяўчыны, на ўзводзе таксама, хіхікаюць, але яшчэ сарамлівыя, хоць і празмерна нафарбаваныя і апранутыя правакацыйна.

Выпіў, вось ён і запанібрата з нашмат старэйшым. Такі пацан яшчэ, па вялікім рахунку, якому ад аднаго кактэйля галаву можа знесці.

«І ты тут гуляеш, не ў Мінску?» — пытаюся.

Так, мы з бацькамі прыехалі на выхадныя, кажа.

Ну, то шчаслівa, мне на вакзал, кажу.

«Да свіданія», — пакланіўся ён, і няглездзячы на хмель, прабіваецца такі ў рухах падлеткавая няёмкасць.

Пайшоў я далей, праз Нямецкую вуліцу да Завальнай.

Каля царквы Усіх Святых ужо стаялі з торбамі ўпрыгожанай вярбы прадаўцы, чакалі першых вернікаў. Якія хочаш «пальмы» — з кветкамі і без. Дзве самыя вялікія торбы — ведаеце такія клетчатыя — разбіраў малады хлопец-старшакласнік. Русы, твар такі тыповы, як у нас на паўночназаходняй Беларусі часта сустрэнеш...

Прыехаў я ў Мінск, цягнік цяпер едзе ўсяго дзве з паловай гадзіны. Заехаў на работу.

Дзясяткі людзей стаяць з вербамі і ў нас каля касцёла на Залатой Горцы, яшчэ ад вуліцы Казлова, каб здаля людзі бачылі. Вецер такі ходзіць пранізлівы, пара градусаў цяпла. А сярод іх і малыя дзяўчаткі, што такім чынам збіраюць грошы на рамонт храма. Купіў я ў іх вярбу. Цаны яны не выстаўлялі, хто колькі дасць. Я даў 20 тысяч.

Той Даніла — бацька з наступнага года пасылае яго вучыцца ў прыватную школу ў Брытанію. Так, ёсць і ў нас у Беларусі такія багатыя людзі. Я ўжо не пытаўся, колькі гэта каштуе, яўна не мала. «Ён мусіць сам усё пакаштаваць, перапрабаваць», — тлумачыў мне ягоны бацька на маё пытанне, ці я не баіцца яго адпускаць, яшчэ такога юнага.

...Хто з іх дасягне большага поспеху ў жыцці, хто мае большыя шанцы? Даніла ці той хлопец з вербамі каля царквы? Яны ж аднагодкі.

Даніла, дзякуючы сваёй брытанскай адукацыі, будзе выдатна ведаць мовы, шмат краін спазнае і ладаў жыцця. Мусіць, нічога не будзе баяцца. Хоць страх, зрэшты, ён не толькі ад беднасці, а найбольш ад фізічнай слабасці і ад розных іншых прычын бывае.

А той хлопец — спраўны, дужы з выгляду, раз прыехаў з вербамі ў горад, значыць, работы і гандлю не баіцца.

Ці сутыкнуцца яны калі? Ці будуць змагацца за адных дзяўчат? Усё гэта непрадказальна.

Тое, што відавочна, што і ў нашым грамадстве адбылося, адбылася новае расслаенне — на багатых і бедных.

Ніколі ў гісторыі багацце само сабой не было зарукай ані поспеху, ані шчасця. Ні Ламаносаў, ні Купала, ні Стыў Джобс не былі з багатых сямей і не мелі элітарнай адукацыі. Але, гэта так, з элітарнай адукацыяй лягчэй знайсці працу ў прыбытковым бізнэсе, бо ты ведаеш, як весці сябе з такімі самымі багатымі. Плюс мовы, у нашых школах іх слаба даюць, бо няма пагружэння ў асяроддзе.

Ці паслаў бы я свайго сына ў 16 гадоў за свет у прэстыжную школу, калі б, уявім сабе, была такая магчымасць? Не ведаю. Прадаваць вербы — паслаў бы, нават падвёз бы на машыне, калі трэба. А за свет — не ведаю. Трэба думаць.

**Андрэй Дынько**

# Фатограф Матолька падасць у суд на БТ

Старшыня Белтэлерадыёкампаніі лічыць, што скарыстаў здымак Матолькі, **не абаронены аўтарскім правам**.



Антон Матолька атрымаў адказ ад старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Генадзя Давыдзькі адносна выкарыстання яго здымкаў. У Белтэлерадыёкампаніі сцвярджаюць, што здымкі былі размешчаныя ў вольным доступе ў інтэрнэце, прэтэнзіі аб «скрадванні» фота лічаць неабгрунтаванымі. «Хай будзе суд», — каментуе Матолька на Facebook.

У сакавіку Матолька пабачыў свае здымкі паўночнага ззяння ў навінах на канале «Беларусь-1». Аўтарства фатографа не было пазначанае, як сцвярджае Матолька, здымкі былі выкарыстаныя без дазволу. Фатограф звяртае ўвагу на тое, што публічна забараняе выкарыстоўваць свае здымкі, выкладзеныя ў блогу, без дазволу і пазначэння аўтарства.

Ён прапануе выплаціць яму 10 млн за маральную шкоду праз парушэнне немаёмасных правоў (на аўтарства і імя) і 5,4 млн за парушэнне маёмасных правоў на тры здымкі, а таксама публічна прынесці прабачэнні.

Белтэлерадыёкампанія спасылаецца на закон «Аб аўтарскім праве», што дазваляе перадаваць у эфір звесткі, размешчаныя ў інтэрнэце для агульнага азнаямлення, калі тое не было спецыяльна забаронена праваўладальнікам. Давыдзька, як вынікае з ліста, не прызнае забарону Матолькі — любы здымак, размешчаны ў блогу, нібы становіцца проста інфармацыяй для агульнага азнаямлення.

**Аляксандр Арсёнаў**



Тое самае фота паўночнага ззяння.

АНТОН МАТОЛЬКА



## «Д’ябал» Раман Грабарэнка

22-гадовы ўраджэнец Магілёва стаў **дзясятым беларускім хакеістам** у наймацнейшай хакейнай лізе свету — у НХЛ.

Увесь сезон Раман адгуляў у складзе «Олбані», у другой па сіле лізе Паўночнай Амерыкі — АХЛ. А напрыканцы сезона Грабарэнка заслужыў выклік у «Нью-Джэрсі Дэвілс». У першым матчы ў НХЛ абаронца правёў на пляцоўцы больш за 11 хвілін. Выніковых балаў не заслужыў, але аднойчы знаходзіўся на пляцоўцы, калі ягоны клуб закідваў шайбу, заслужыўшы каафіцыент карыснасці +1.

Праўда, клуб Грабарэнкі ў выніку прайграў «Тампе» з лікам 4:3.

Сёлета ў НХЛ гуляў толькі адзін беларус — Міхаіл Грабоўскі. Ён абараняе колеры клуба «Нью-Ёрк Айлендэрс». Праўда, сезон у Грабоўскага не надта атрымаўся праз шматлікія траўмы. Раней шведры каманд НХЛ апранялі таксама Аляксандр Андрыеўскі, Алег Мікульчык, Уладзімір Цыплакоў, Руслан Салей, Канстанцін Кальцоў, Андрэй і Сяргей Касціцыны, Дзмітрый Корабаў.

Дарэчы, каманда з Нью-Джэрсі мае назву «д’ябаль». Яна так завецца ў гонар мясцовага фальклорнага персанажа — «джэрсійскага д’ябла», якога нібыта неадназоава бачылі жыхары штата.

**Зміцер Панкавец**

## Дачка Бруса Уіліса марыла аб пластычнай аперацыі, каб не быць падобнай да бацькі

26-гадовая Румер Уіліс (дачка Дэмі Мур і Бруса Уіліса) прызналася, што з яе ў школе здзекаваліся аднакласнікі з-за яе нежаноцкай знешнасці, у выніку ўсе яе думкі запоўніла толькі жаданне зрабіць пластычную аперацыю, паведамляе «Бі-бі-сі».



Гэтае прызнанне дзяўчына зрабіла падчас тэлешоу «Танцы з зоркамі», гераіняй якога нядаўна стала. Дзеці здзекаваліся з яе, бо яна не была такая ж прыгожая, як яе маці, галівудская акцёрка Дэмі Мур. Людзі ўвесь час казалі Румер Уіліс, што яна выглядае як мужчына, што больш падобная да свайго брутальнага таты, героя баевікоў.

Аднак Румер навучылася любіць сябе пасля таго, як убачыла, што адбылося з яе сястрой, 21-гадовай Талай. Тала лячылася ў рэабілітацыйным цэнтры ад анарэксіі і псіхалагічных праблем.

«Мае недахопы — гэта нармальна. Я па-свойму прыгожая, астатняе не мае значэння. Я проста зразумела, што магу адчуваць сябе такой, проста мне трэба перастаць слухаць злых людзей, якім не падабаецца мая знешнасць», — сказала Румер.

**Сямён Цыбульскі**



## Новы беларускі спадарожнік будзе камерцыйным

Аб меркаваным часе запуску пакуль **не кажуць**.

Стварэнне новага беларускага спадарожніка закладваецца ў касмічную праграму, распрацоўка якой практычна завершаная, перадае БелТА.

Аляксандр Лукашэнка падтрымлівае стварэнне новага беларускага спадарожніка, але кажа, што ён мае быць больш камерцыйным, а не проста пазнавальным, заявіў кіраўнік апарата Нацыянальнай акадэміі навук Пётр Віцязь.

Па словах Віцязя, цяпер усё ўзгадняецца са спажыўцамі, вывучаецца папярэдні досвед і магчымыя нішы. «Паколькі Беларусь — краіна маленькая, то мы павінны з кімсьці скааперавацца. Для нас стратэгічны партнёр — Расія», — кажа галоўны канструктар Беларускай касмічнай сістэмы дыстанцыйнага зандзіравання Сяргей Залаты.

У перамовах з Раскосмасам беларускі бок гаворыць аб тым, што новы беларускі спадарожнік увойдзе ў адну з расійскіх груповак спадарожнікаў.

Новы спадарожнік, паводле яго слоў, павінен мець распазнаванне, лепшае за адзін метр. Распазнаванне ў два метры дазваляе ствараць тапаграфічныя карты маштабу 1:50000 і абнаўляць маштаб 1:25000, «метровы» спадарожнік дасць магчымасць працаваць з дзесяцітысячным маштабам.

Па інфармацыі Залатога, калі кошт аэрафотаздымкі аднаго квадратнага кіламетра складае каля 30 даляраў, то аналагічныя затраты пры выкарыстанні касмічнага спадарожніка ў 2—3 разы ніжэйшыя.

Сёння Беларусь мае адзін спадарожнік. Беларускі касмічны апарат (БКА) быў запушчаны ў 2012 годзе. Яго распазнавальная здольнасць — 2 метры ў аднаканальным (панхраматычным) рэжыме і 10,5 метра ў шматканальным.

**АА**

Кіно

## 1100 міль пехам

Дзікая
**Жанр:** драма, біяграфія
**Рэжысёр:** Жан-Марк Вале
**У ролях:** Рыз Уізерспун, Лора Дзерн, Томас Садоскі, Кін МакРэй, Міхіл Хаўшман, У. Эрл Браўн, Габі Хофман, Кекін О. Ранкін
ЗША, 115 хв.
Адзнака: 7

Амерыканка Шэрыл Стрэйд, засмучаная няўдалым шлюбам і смерцю маці, страціла надзею на шчасце. Яна выпраўляецца ў падарожжа пехам па Ціхаакіянскім хрыбце — найбольш высокіх участках хрыбта Сьера-Невада і Каскадных гор, на мяжы штатаў Арэгон і Вашынгтон, даўжынёй у 1100 міль. Жанчына спадзяецца, што выпрабаванні, якія выпадуць ёй у гэтым небяспечным самотным падарожжы, абавязкова вылечаць яе ад душэўных пакут.

Фільм заснаваны на аўтабіяграфічнай кнізе Шэрыл Стрэйд «Дзікая. Небяспечнае падарожжа як спосаб знайсці сябе», у якой аўтарка падрабязна апісвае сваё падарожжа ў 1995 годзе і падзеі ўласнага жыцця, што прывялі да рашэння яго здзейсніць. Папулярная амерыканская гісторыя пра выйсце за межы зоны камфорту выдатна ўвасобілася ў творы Шэрыл: выдадзеная ў 2012 кніга набыла вялікі розглас. Правы на яе экранізацыю былі набытыя яшчэ да выхаду ў друк маладой прадзюсарскай кампаніяй акцёркі Рыз Уізерспун («Жорсткія гульні» (1999), «Перайсці рысу» (2005)). Яна і была абраная на галоўную ролю — так пажадала аўтарка кнігі і нават сама засвяцілася ў адным з эпізодаў. Падчас здымак Рыз давялося складаць намёт і карыстацца пліткай без інструкцый, каб намаганні падарожніцы без досведу ў кадры выглядалі найбольш рэалістычна.



Цяпер Шэрыл Стрэйд вядомая ў Амерыцы пісьменніца і эсэіст. Яе творы двойчы ўваходзілі ў «Найлепшыя амерыканскія эсэ» (2000, 2003), акрамя таго, ёй дастаўся Pushcart Prize за эсэ пра ліст ад нобелеўскай лаўрэаткі па літаратуры Эліс Манро, які Шэрыл атрымала, калі была маладой аўтаркай.

Адаптаваў кнігу для кіно брытанскі пісьменнік Нік Хорнбі. На «Оскары-2015» выканаўца галоўнай ролі і прадзюсарка фільма Рыз Уізерспун стала намінанткай у катэгорыі «Найлепшая жаночая роля».

**Настасся Уласава**

# Або ты раб, або ты дармаед

На днях быў прыняты надзвычай важны дакумент: Дэкрэт «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрымаманства». На маю думку, мы прачнуліся, вобразна кажучы, у «іншай краіне». Фактычна, у Беларусі ўвядзена новая паншчына. Лічу, што Беларусь уступіла ў фазу ператварэння ў таталітарную дзяржаву.

Адным з самых устойлівых міфаў, якія стварыла лукашэнкаўская прапаганда за гады свайго існавання, быў тэзіс пра тое, што, дзякуючы палітыцы ўладаў, у нас самае нізкае ў свеце беспрацоўе. І гэты факт падаваўся як значнае дасягненне. Бо Лукашэнка сам неаднаразова казаў пра тое, што галоўнае права — гэта права на працу. А ў нас, калі верыць прапагандзе, з гэтым нібыта ўсё настолькі добра, што хоць у кнігу рэкордаў Гінэса.

Зразумела, што ні Лукашэнка, ні міністр сацыяльнай абароны, ні афіцыйныя прафсаюзы свядома ніколі не рабілі акцэнту на тым, што ў нас фантастычна нізкія лічбы афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных. І гэта цалкам зразумела. Навошта чалавеку ў здаровым розуме марнаваць час і нервы на тое, каб у выніку атрымаць дапамогу па беспрацоўі ў памеры 20—30 даляраў?

Пры гэтым, па падліках аўтарытэтных экспертаў, сотні тысяч беларускіх грамадзян працуюць за межамі Беларусі, пераважна ў суседняй Расіі.

І вось у 2013 годзе Міхаіл Мясніковіч, тады яшчэ старшыня ўрада, адным махам

## Як пры нашых цэнах пражыць на 3 мільёны? Спадарыня Шчоткіна не спрабавала?

звёў на нішто шматгадовую працу сваіх жа падначаленых з Белстата. Аксакал беларускай палітыкі заявіў, што «амаль 445 тысяч беларусаў працаздольнага ўзросту па дакументах нідзе не працуюць, не ўносяць ніякага ўкладу ў развіццё грамадскай эканомікі». Адначасова прэм'ер агучыў сваё бачанне вырашэння гэтай праблемы, прапанаваўшы «ўвядзенне падатку з непрацуючых».

Трэба сказаць, што першым пра барацьбу з так званым «сацыяльным утрыманствам» пачаў казаць сам Лукашэнка, прапанаваўшы ўвесці 100% плату за медыцынскае абслугоўванне для тых беларускіх грамадзян, якія працуюць за межамі Беларусі, атрымліваюць добрыя заробкі, але плаціць падаткі не жадаюць. Абмеркаванне закінутай у свядомасць электарату тэмы працягнулі некаторыя дэпутаты «палаткі».

Сам сабою напрошваўся вывад, што ўлады мэтанакіравана рыхтуюць насельніцтва да непапулярных рашэнняў. Далей — болей, сілавікі прапаноўвалі штрафаваць і нават арыштоўваць любога грамадзяніна, які не працуе больш за 6 месяцаў. Уключыліся ў прапагандысцкую вакханалію і старшыні аблвыканкамаў, вырашыўшы ўсіх беспрацоўных узяць «на аловак», стварыўшы базу, як кажуць па БТ, «сацыяльных паразітаў».

Але ж кожнаму ясна, чаму людзі з'язджаюць у Расію ці ЕС, гарбацяцца там ад відна да відна, рызыкуюць жыццём. Бо заробкі на многіх прадпрыемствах — гэта здзек. Асабліва ў правінцыі! Як пры нашым узроўні цэн можна пражыць на 2 500 000 — 3 000 000 за месяц?! Спадарыня Шчоткіна не спрабавала?

Да таго ж, суграмадзяне, якія працуюць у «шэрым» сектары ў Беларусі ці нелегальна за мяжой, усё роўна купляюць прадукты ў беларускіх крамах. Гэтым самым не толькі забяспечваюца працай і заробкам тыя, хто працуе на беларускіх прадпрыемствах, але і аплачваецца падатак на даданую вартасць.

Я катэгарычна супраць «падатку на дармаедаў». Баюся, ён лёгка можа перарасці ў механізм змушэння да рабскай працы ў калгасах за капейкі.

**Дзяніс Рабянок, Калінкавічы (Гомельская вобласць)**

**Ад рэдактара**

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе цікавыя ці, наадварот, абуральныя факты.

У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы нараканні павінны быць законнымі і справядлівымі.

Пішыце, як Вам зручна: на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29 Skype: nashaniva**

**Вачыма паэта**

## Зняволены

Я ішоў да Цябе і шляхамі, і сцежкамі —
як жывеш Ты, радзімы мой Край?
Быў Ты слаўны калісьці лясамі бязмежнымі,
а сягоння бязмежны Твой страх.

Твой народ, што нярэдка еў хлеб з лебядою,
быў у бітвах не горшы ваяр,
сёння ходзіць над прорвай
ў абдымках з бядою
і не знойдзе дарог аніяк.

Гінуць вёскі, як быццам стапталі іх орды,
дажываюць нядоўгі свой век.
І тлусцеюць запроданцаў сытыя морды,
і смяецца дурны чалавек…

Калі сніцца мне ў снах, што Цябе пакідаю,
прачынаюся з болем ў грудзях.
Ты — каханне маё. Ты — мая дарагая,
Ты — мне Богам прысуджаны шлях.

Мо занадта была Ты такой хлебасольнай?
Эх, які ў Цябе рабскі спакой!
Ці не лепей памерці за Волю і Вольнасць,
чым жыццё ў вязніцы такой?

**Георгі Станкевіч, Ранчыцы (Бешанкавіцкі раён Віцебскай вобласці)**

**Справа ўсенародная**

## Напішы артыкул у «Вікіпедыю» да 15 чэрвеня — атрымай планшэт

Таварыства беларускай мовы працягвае абвешчаны конкурс артыкулаў у «Вікіпедыю» на тэму «Гуманітарныя навукі. Персаналіі». Артыкулы на конкурс можна дасылаць да 15 чэрвеня 2015 года, а пераможца атрымае галоўны прыз — планшэт. Іншыя прызы: электронная кніга і флэшка.

Але атрымаць планшэт — не галоўная нагода. І гэта — той самы выпадак, калі ўдзел, бадай, важнейшы за перамогу. Сам удзел ужо ёсць перамогай — нашай супольнай перамогай. Кожны з нас ёсць спецыялістам у сваёй прафесіі. Кожны мае нейкае захапленне — ад вазонаў да парашутнага спорту.

І кожны з нас проста абавязаны напісаць артыкул у «Вікіпедыю»! Навошта? Каб па-беларуску ў інтэрнэце можна было знайсці ўсё!

Прадбачым першае пытанне: «А што рабіць, калі я не ўмею пісаць артыкулы ў «Вікіпедыю»?» Адказ на яго можа быць толькі адзін: вучыцеся! Гэта проста. Вам у дапамогу — даведка «Вікіпедыі». Таксама вы ў любы момант можаце звярнуцца па параду да арганізатараў.

Калі ўзнікне такая патрэба, ТБМ арганізуе навучальны занятак; галоўнае — паведаміце нам пра гэта: напішыце на пошту ТБМ siadziba@gmail.com, дашліце паведамленне ў суполкі таварыства ў сацыяльных сетках.

**tbm-mova.by**

**Прыватныя абвесткі**

**Шукаю падпрацоўку ў дзённы час**

Дзённую працу па дамове падраду шукае 47-гадовы мянчук. Па «кніжцы» працую ноч праз две. Кідаць працу не збіраюся. Досвед у вытворчасці, складской гаспадарцы, інш. Дзмітрый (029) 191-53-31, mr.zmitser@mail.ru



**Дурні**

**«У вас такія чыстыя сталічныя вуліцы....»**

Яшчэ тыдзень таму ў гэтым лясочку каля пасёлка Дружны было чыста. Цяпер з'явілася вось такая кампазіцыя. Хацелася б пажадаць яе аўтару, каб яго дзеці доўга жылі пасярод таго смецця, якім ён так шчодра адорвае прыроду.

**Фота Сяргея Зініна**

# Аўтар — суаўтар — не аўтар

Пасля сумнавядомага рэферэндуму 14 мая 1995 амаль 20 гадоў «Пагоня» тыражавалася і распаўсюджвалася ў выглядзе значкаў, налепак, магнітаў, у чорна-белым, каляровым і аб'ёмным выглядзе. Усё было прыстойна, ніхто з «Пагоні» не «сцябаўся». І тут раптам, як каналізацыйную трубу, прарвала. Безгустоўна, нясмешна, абражальна. І ўсё гэта пад псеўдашляхетнымі лозунгамі. А пачала, як ні сумна, «Наша Ніва», сталым чытачом і неаднаразовым аўтарам якой я з'яўляюся з першых дзён аднаўлення газеты.

Няўдалы жарт «Па конях!» 1 студзеня 2014 года. Які ж дурань палезе на неасядланага каня? Ці далёка на такім кані праскачаш? Нясмачныя жарты прадоўжыла студыя Pras. Бязногі конь, мікраскапічны рыцар, мяркую, шмат чаго з гэтага я проста не бачыў.

І, нарэшце, бессаромны плагіят. Я, дарэчы, шчыра ўдзячны «НН» за публікацыю калажу на першай старонцы тыднёвіка за 25 сакавіка гэтага года. Няўзброеным вокам відаць, і старому, і малому, і неадмыслоўцу, і прафесіяналу, адкуль, вобразна кажучы, у Плоткі і Галавіной ножкі растуць.

Для арыгінальнага «сцёбу» патрэбны тонкі густ, мастацкія здольнасці і разумная галава. Як прыклад — малюнкі светлае памяці Пятра Драчова.

Наконт рэплік З.Пазняка і А.Трусава з ужо згаданага ж нумара «НН» ад 25 сакавіка. Я даўно і добра ведаю Зянона, бо ў далёкім 1991 годзе быў каардынатарам ягонай выбарчай кампаніі. Відаць, узрост Зянона Станіслававіча (хаця ён і маладзейшы за мяне на 7 гадоў) і даўнасць падзеяў дазволілі яму прыпісаць да стваральнікаў эталона «Пагоні» Алеся Марачкіна, Хведара Ладуцькі, Пятра Драчова і «іншых нашых мастакоў» і пры гэтым забыцца на Льва Талбузіна, які па графічных узорах Куліка і Крукоўскага выляпіў эталонны барэльеф «Пагоні».

Дарэчы, барэльеф «Пагоні» на Доме ўрада яшчэ доўга вісеў пасля 14 мая 1995 года. А выляпіў яго скульптар Валянцін Занковіч, лаўрэат Ленінскае прэміі і адзін з аўтараў мемарыяла «Хатынь», паводле дакладнага графічнага эталона, зацверджанага 10 снежня 1991 года Вярхоўным Саветам Беларусі.

Што тычыцца кароткае памяці. Алега Трусаву, былому старшыні «Камісіі для выпрацоўкі эталона Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь...», раю перачытаць уласны артыкул «Лунай, наш сцяг, ляці, Пагоня!», цытата з якога прыводзіцца ва ўрэзцы.

**Уладзімір Крукоўскі. Мінск**




**З гісторыяй на «Вы».** Мінск. Мастацкая літаратура. 1994 год. Артыкул Алега Трусава. Старонка 20. «Так склалася, што над эталонам герба ў асноўным працавалі Яўген Кулік і Уладзімір Крукоўскі».

**Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Том 3.** 1996 год. Старонка 247. «Аўтары эталона герба У. Крукоўскі і Я. Кулік».

**Беларускі саюз мастакоў. Энцыклапедычны даведнік.** Мінск. 1998 год. Старонка 273. «Аўтар эталона былога Дзярж. герба Рэспублікі Беларусь «Пагоня» (у сааўт. з Я.Куліком)».

**Суполка «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў.** Мінск. 2002 год. Старонка 17. «Аўтар (разам з Я.Куліком) эталона Дзяржаўнага герба Беларусі «Пагоня».

**Анатоль Цітоў. Геральдыка Беларусі.** Мінск. 2007 год. Старонка 109. «Дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь 1991—1995 г.г. Мастакі Кулік Я.С., Крукоўскі Ул.Я.».



**Малюнкі студыі «Pras».**



# «Дайшло да таго, што патрабавалі хабар $500 тысяч»

**У Мінску пачаўся гучны працэс па справе саюза спажывецкіх кааператываў.**

Судзяць адразу шасцярых: ужо былых кіраўнікоў Белкаапсаюза і бізнэсоўцаў. Адны, як даводзіць пракурор, бралі хабар, другія яго перадавалі. У справе фігуруюць сотні тысяч даляраў.

Судзяць былых кіраўніка Белкаапсаюза Сяргея Сідзько, начальніка ўпраўлення капітальнага будаўніцтва Белкаапсаюза Дзмітрыя Калодзезнага і яго намесніцу Элеанору Сізук, намесніка дырэктара фірмы «Адонісбудсэрвіс» Уладзіміра Ленскага, дырэктара фірмы «Саната-Буд» Аляксандра Дранькова, грамадзяніна Украіны Андрэя Турчанку. Сідзько і Турчанка — за кратамі, астатнія прыходзяць на суд з дому.



Абвінавачаныя Андрэй Турчанка (злева) і Сяргей Сідзько.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Аматар віскі ў рангу міністра

Белкаапсаюз — дзяржаўная арганізацыя, якая валодае вялізнай маёмасцю па ўсёй краіне. Гэта сетка крамаў і кавярняў, будаўнічыя і транспартныя арганізацыі і яшчэ шмат іншага. Вялікая бізнэс-імперыя, у якой занята больш за 80 тысяч чалавек. А кіраўнік гэтай «імперыі» прыраўняны па статусе да міністра.

Сяргея Сідзько абвінавацілі ў тым, што ў змове з Дзмітрыем Калодзезным лабіраваў інтарэсы прыватных фірм пры заключэнні дамоў на будаўніцтва і рамонт белакаапсаюзаўскіх аб'ектаў. За гэта абодва атрымлівалі грошы ад удзячных бізнэсоўцаў.

З 2010 па 2013 Сідзько паспрыяў заключэнню кантрактаў на будаўніцтва крам у Лідзе, Любані, Жлобіне, на будаўніцтва халадзільнага склада ў Мінску, на рамонт у вучэбных карпусах Полацкага гандлёва-тэхналагічнага каледжа. Гэта толькі частка эпізодаў. І каля двух дзясяткаў сустрэч, падчас якіх перадаваліся грошы — у суме больш за $100 тысяч. Калодзезнаму перадавалі значна меншыя сумы.

Грошы перадаваліся пры пасярэдніцтве Ленскага. А разам з грашыма Ленскі «ад сябе» перадаваў Сідзько віскі: па адной, дзве, тры бутэлькі. Агулам не менш за 17.

### Муляж паўмільёна даляраў

Паводле абвінавачвання, у 2011 Калодзезны ўступіў у змову з Андрэем Турчанкам. Прапанаваў украінцу знайсці пакупнікоў на аб'екты Белкаапсаюза: адміністратыўны будынак на вуліцы Татарскай, дзіцячы садок на Партызанскім праспекце ў Мінску і дзіцячы лагер у Мінскім раёне. Але была ўмова: пакупнік мусіў частку грошай аплаціць праз банк, а рэшту аддаць гатоўкай.

Турчанка сам даць рады ў такой справе не змог і звярнуўся да супрацоўніцы агенцтва па нерухомасці Браздзецкай: паабяцаў узнагароду за пошук кліента. Яна і адшукала — кампанію «БелЛПЗ». За будынак на Татарскай пакупнік мусіў $1,1 мільёна пералічыць на рахунак Белкаапсаюза, а $500 тысяч перадаць на рукі для хабару. Турчанка тады ўзяў $5000 задатку, а рэшту пакупнікі паклалі ў банкаўскую ячэйку — нібыта для гарантыі. Як вынікае, бізнэсоўцы звярнуліся ў КДБ. І калі клалі грошы ў банк, гэта быў муляж — несапраўдныя даляры. А пасля, у ліпені 2013, прайшлі арышты.

Браздзецкую, між іншым, таксама будуць судзіць. Спачатку яе справу збіраліся разглядаць асобна, але суддзя вырашыў далучыць да гэтай. З наступнага пасяджэння лава абвінавачаных папоўніцца.

### Кансультавала за грошы

Ролі астатніх абвінавачаных у гучнай справе не такія прыкметныя. Аляксандр Дранькоў, на той час дырэктар будфірмы, перадаваў грошы праз Ленскага для кіраўнікоў Белкаапсаюза. За гэта спадзяваўся атрымаць патрэбныя замовы.

Зусім сціплым выглядае абвінавачанне Элеаноры Сізук. Жанчына кансультавала бізнэсоўцаў. Усё адбывалася ў межах яе паўнамоцтваў, але за гэта атрымлівала грошы — агулам $1200. «Незаконнае ўзнагароджанне», — як кваліфікуе пракурор. І толькі адзін эпізод тычыцца непасрэдна хабару ў $1500: паспрыяла хабарадаўцу ў вырашэнні яго пытання.

### «Раскайваюся»

«Абвінавачанне зразумелае. Не прызнаю цалкам ні па адным з эпізодаў», — заявіў Сяргей Сідзько. У тон яму вымавіў і Дранькоў: «Абвінавачанне не прызнаю ў поўным аб'ёме».

Калодзезны прызнаў, што грошы браў, але нікому не спрыяў. Ленскі і Сізук адпірацца не сталі.

Падрабязную пазіцыю кожнага з абвінавачаных можна будзе пачуць толькі падчас іх допытаў у працэсе. Суд працягнецца на гэтым тыдні.

**Сяргей Макарэвіч**





За гэты будынак прасілі хабар у $500 тысяч.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Купіў дом на Канарах?**

Сяргей Сідзько нарадзіўся ў 1956 у Брэсце. Працаваў на Брэсцкім заводзе бытавой хіміі, быў старшынёй праўлення Брэсцкага аблспажыўсаюза. У 2009 прызначаны кіраўніком Белкаапсаюза. Жанаты. Мае сына і дачку.

«Дайшло да таго, што Сідзько купіў і аформіў на дачку дом на Канарскіх астравах. Напэўна, у спадзяванні, што праваахоўныя органы там яго не дастануць. За продаж будынка ў цэнтры Мінска патрабаваў хабар аж у паўмільёна даляраў», — заявіў летась Лукашэнка пра гэтую справу. Праўда, на судзе дом на Канарах пакуль не ўсплыў.

Адвакат хадайнічаў, каб Сідзько змянілі меру стрымання альбо вызвалілі пад заклад. У якасці закладу жонка прапанавала сваю трохпакаёўку (67 м²) у Брэсце. Але суддзя адмовіў.

Сідзько вінавацяць у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі (пагражае да 10 гадоў зняволення) і атрыманні хабару (да 15 гадоў з канфіскацыяй).

**Бацька немаўляці**

Дзмітрый Калодзезны нарадзіўся ў 1976. Жанаты. Гадуе сыноў: аднаму 7 гадоў, другому паўгода. Цяпер працуе майстрам у будаўнічай кампаніі.

Вінавацяць у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі (да 6 гадоў калоніі); атрыманні хабару (да 10 гадоў калоніі з канфіскацыяй); падбухторванні да дачы хабару (да 7 гадоў калоніі).

**Уладкавалася ў сенатара**

Элеанора Сізук нарадзілася ў 1969 у Ташкенце. Грамадзянка Беларусі. Мае вышэйшую адукацыю. Замужам. Мае двух сыноў. Цяпер працуе ў «Амкадор-Белвар», які належыць сенатару Шакуціну.

Вінавацяць у атрыманні хабару (да 7 гадоў калоніі з канфіскацыяй); атрыманні незаконнага ўзнагароджвання (да 5 гадоў калоніі).

## Сцісла

### 14 гадоў лічылі зніклымі, а яны з'явіліся

Следчыя адшукалі жанчыну і яе дачку з Гродна, якія зніклі без вестак 14 гадоў таму і лічыліся забітымі. Цяпер высветлілася, што жанчына разам з 9-гадовай дачкой добраахвотна выехала ў Расію, не папярэдзіўшы сваякоў.

### Паланіў і катаваў каханку

У Лідзе малады чалавек з'ехаўся з дзяўчынай. Падчас аднаго з застолляў хлопец прыгадаў былыя крыўды на сужыцельку: тая да яго сустракалася з іншымі мужчынамі. І некалькі дзён не выпускаў дзяўчыну з дому і катаваў. На яе целе засталіся сляды ад тэрмічных апёкаў, шматлікія сляды ад удараў.

### Патапіла ўласных дзяцей?

25-гадовая маці з Гомеля паведаміла ў міліцыю пра гібель сваіх дзяцей. На месцы следчыя знайшлі нежывымі трохгадовага хлопчыка і гадавалую дзяўчынку. Жанчыну падазраюць у забойстве сына (патапіла), абставіны смерці дзяўчынкі высвятляюцца.

### Дзевяцікласнік згвалтаваў першакласніка

3 красавіка ў прыбіральні ў двары адной з сельскіх школ Светлагорскага раёна вучань 9-га класа ўчыніў гвалтоўныя дзеянні сэксуальнага характару ў дачыненні да першакласніка. Гвалтаўніку пагражае да 13 гадоў зняволення.

### Згвалтаваў і задушыў

25-гадовага хлопца з Кобрынскага раёна адправілі за краты на 23 гады. Летась ён на крадзеным аўто ўзяўся падвезці 18-гадовую дзяўчыну ў суседнюю вёску. Але адвёз у лес, дзе згвалтаваў і задушыў. Труп закапаў.

**КМ**

# 91-гадовы вясковы святар: «Такія часы надышлі — толькі адпяваю, амаль не хрышчу»

Пачапава — вёска на мяжы Баранавіцкага і Навагрудскага раёнаў. Самы высокі будынак — царква, а самы **аўтарытэтны чалавек** — святар.

Тутэйшаму «бацюшку» ўжо пайшоў 92-гі год, але ён усё яшчэ служыць у царкве, якую сам некалі і ўзняў з руінаў.

Хата святара стаіць на ўскрайку вёскі. Шэры плот ужо падкасіў час, а аблупленая месцамі фарба як бы сведчыць: у гаспадара на адноўку хаты няма сілы. Веснічкі на падворак адчыненыя. Але гэта, відаць, патрэба — госці ў айца Георгія Сапуна бываюць часта.

«Заходзьце і вы, — з ганка кажа святар, — паслухаеце, пагаворыце. З людзьмі паразмаўляць я час заўсёды адшукаю».

У пакоі, дзе айцец прымае журналістаў, «творчы вэрхал». Усе палічкі занятыя кнігамі, яны нават на печы. Стары айцец дастае фотальбом і аддаецца ўспамінам.

«Некалі было ўва мне троху духу — шчырасці нашай беларускай. Але трачуся ўжо, жыццё праходзіць. І цяпер гляджу я на вас, юных, ды па-добраму зайздрошчу, бо вы самае галоўнае маеце — маладосць і магчымасці. Калі я маладым быў, то бачыў толькі пакуты і смерць: вайну, катаргу, галодныя пасляваенныя гады, бязбожнікаў-камуністаў», — з болем у голасе кажа састарэлы бацюшка.

«Асабліва мне вайна ў памяць урэзалася. За тымі часамі тут каго толькі не было! Памятаю, як і рускія войскі тут праходзілі — тыя, што супраць саветаў, — і казакі, і ўкраінцы. Зойдуць у царкву з шаблямі, шапкі свае на рукі пакладуць ды моляцца. А звонку іх коні чакалі, запрэжаныя ў гарматы», — узгадвае стары.




«Тады ж толькі два шляхі было: альбо да немцаў, альбо ў лес да партызанаў. З апошнімі я меў сувязь, але нядоўга. Зрэшты, менавіта партызаны ў аколіцах усе цэрквы ў вайну і папалілі: у Сваротве, Ятве, у нашым Пачапаве. Засталася толькі невялікая каплічка на мясцовых могілках, ды і тая напалову знішчаная. Жабы там жылі. Я ў ёй потым 50 гадоў адслужыў, каб грошы на новы храм у Пачапаве сабраць. І ў выніку пабудавалі! На рэштках старога. Столькі часу на гэта сышло, ажно страшна думаць», — кажа святар.

«Неяк так выходзіць, што людзі хочуць жыць у міры і згодзе, а ўсё ваююць адзін з адным. Маральнасць — яна сёння хворая. Людзі няшчырыя ў сваіх дзеяннях, веры. Скалечылі мову, Богам пачалі прыкрывацца для ажыццяўлення сваіх задумаў... Гэтая няшчырасць і вядзе нас да згубы. Дарэчы, ужо шмат часу я назіраю, як штогод нараджаецца менш, чым памірае. Такія часы надышлі — толькі адпяваю, амаль не хрышчу», — ціха кажа святар.

Таксама балюча старому гаварыць аб вайне ва Украіне. Паводле яго, людзі народжаныя не для таго, каб забіваць адзін аднаго.

«У тым, што там цяперака адбываецца, мне ўжо і не разабрацца. Але мне здаецца, гэта нейкая народная помста. Бо ўкраінцам давялося пацярпець ад бальшавікоў. Там людзі заможна жылі, былі добрымі гаспадарамі, на сваёй урадлівай зямлі. А іх у Сібір заганялі, раскулачвалі. Нейкая крыўда паміж Усходам і Захадам існуе», — перакананы айцец.

«У нас таксама так было. Шмат беларусаў сышло на Захад — у Амерыку, Германію, Польшчу. Гэта тыя людзі, якія займалі нейкія пасады пры акупацыі, «вітушкаўцы» таксама. Ну і проста такія, хто пры камуністах жыць не хацеў — сярод іх і маіх колішніх знаёмых хапае», — уздыхае святар.

Падчас гаворкі аб Усходзе і Захадзе ўзгадваецца Польшча, пад уладай якой у 1924-м айцец уласна і нарадзіўся. Разважаючы аб краіне-суседцы, святар агучвае сваю версію таго, чаму сёння палякі багацейшыя.

«Бо там людзі самі свабодна імкнуліся да чагосьці, самі ўсяго дасягалі. А нас прымушалі: зямлю адбіралі, скаціну, свабоду. Вось і цяпер кажуць: мы незалежныя! Але якія ж мы незалежныя, калі свайго нічога не маем? Бо некалі так было: падаткі заплаціў — і ўсё, ніякі чыноўнік на тваю зямлю і нагою не ступіць — прыватная ўласнасць! А цяпер... Увогуле, я так гляну іншым разам — людзі ж за ежу сталі працаваць. Бо раней гаспадар сам сабе мог на цэлы год зрабіць запас, каб пражыць. А што мы сёння можам? Ёсць грошы — купіў, паеў. А няма грошай?..»

У гэты момант у сенцах з'яўляецца жонка айца, ягоная аднагодка «Ганнушка».

«Чаму ты, бацюшка, так доўга гаворыш? Хадзі сюды», — кажа яна.

«Іду, Ганнушка, іду», — адказвае ён і на развітанне дае нам наказ.

«Каб жыццё годна пражыць, трэба мець выхаванне, цярпенне і мужнасць. І Бога мець у сэрцы. А Бог — гэта любоў. А то многія з гэтым пачуццём разабрацца не могуць, нікога не любяць, а наракаюць на лёс. Важна, каб любоў нас не пакідала і была шчырай. Тады і чалавек шчаслівым будзе».

**Арцём Гарбацэвіч**

# Заснавальнік партала litkritika.by: **Я б і краіну перайменаваў, бо слова «Русь» сябе дыскрэдытавала**

Аляксандр Новікаў, заснавальнік партала litkritika.by, **шмат крыві сапсаваў** беларускім пісьменнікам.

Ваяваў з «нацыяналістамі», вінаваціў у графаманстве нават Бураўкіна з Барадуліным. Як жа мы былі здзіўленыя, калі пабачылі на інтэрнэт-старонцы гэтага крытыка... рэзкую крытыку Пуціна і паводзін Расіі ва Украіне! Вось што распавёў «Нашай Ніве» сам Новікаў.

### Апазіцыянеры і рэвалюцыянеры

Я — патрыёт. З дзяржавай я ніколі не ваяваў, і ўвогуле не падзяляю краіну, Радзіму і дзяржаву. Для мяне гэта ўсё адно. Я за моцную і незалежную Беларусь. А нашая апазіцыя — гэта рэвалюцыянеры. Апазіцыянер павінен быць у апазіцыі да ўлады, фінансавацца мясцовым насельніцтвам ці бізнэсоўцамі. А нашыя толькі дэкларуюць: «Далоў Лукашэнку!». Палова жыве за мяжой, фінансуецца адтуль жа.

Цяпер жа нармальная апазіцыя толькі пачынае з'яўляцца. І адбываецца гэта з-за таго, што робіць Расія. Той жа Лобаў, які кажа, што лепш з Лукашэнкам, чым з Пуціным, — малады, разумны хлопец.

Мы фактычна каралеўства, я прызнаю, улада — у руках аднаго чалавека. Але чыноўнікі робяць свае справы. Я, праўда, лічу, што атачэнне прэзідэнта не дае ўсёй інфармацыі прасочваць да яго. Той жа ўказ, скіраваны на іпэшнікаў, ён жа працуе супраць Лукашэнкі. Я лічу, гэта не яго ідэя — гэта Кабякоў і Пракаповіч.

### Мовафілы і беларусізацыя

Мовафілы — гэта тыя, хто любіць мову напаказ. Калі Уладзімір Ліпскі кажа: «Я вымаўляю «Беларусь» і плачу!», то гэта нармальна? Хіба ён сапраўды плача? Да людзей, якія шчыра размаўляюць на беларускай, я стаўлюся нармальна. Больш за тое, я падтрымліваю распаўсюджванне беларускай мовы. Я лічу, што трэба быць нацыяй і ісці да адной дзяржаўнай мовы. І трэба, каб прынялі праграму на дзяржаўным узроўні аб тым, што справаводства ўсё пераходзіць на беларускую мову. Так, можна даць людзям пэўны тэрмін, каб яны яе вывучылі, напрыклад, гадоў 5. А потым проста не браць на дзяржаўную працу тых, хто не ведае беларускай. Усё афіцыйнае жыццё павінна ісці па-беларуску, нават тэлебачанне трэба перавесці пераважна на беларускую мову. Я б, шчыра кажучы, і краіну перайменаваў, бо я супраць слова «Русь». Русь сёння сабе дастаткова скампраметавала. Няхай бы назвалі неяк інакш, ды хоць «Шклоўскае каралеўства»...

### Майдан актывізавалі расейскія спецслужбы

Я ведаю жыццё ва Украіне. І калі пачаўся Майдан, я зразумеў, што людзей проста давялі. Майдан зрабіў не Захад, а фактычна сам Януковіч. А актывізавалі расейскія спецслужбы, калі пачалі забіваць людзей.

Сёння не звяртаць увагі на Украіну нельга. І я не разумею засілля расейскай прапаганды. Казакі, іншыя чарнасоценцы цяпер актывізуюцца. Куды глядзяць спецслужбы?

Я згодзен, калі Расію параўноўваюць з гітлераўскай Германіяй. Гэта так. Сёння сітуацыя з Украінай дакладна паказала, што такое Расія, і якія людзі там жывуць, і якія людзі кіруюць. Крэмль гвалціў краіну яшчэ ў савецкія часы і працягвае рабіць гэта і цяпер. І дзіўна, але шмат каму гэта падабаецца. І не трэба казаць, што раней мы жылі ў брацкай згодзе, не. Успомніце хаця б бясконцыя «газавыя войны».

І сёння Расія паціху захоплівае нас, хаця б эканамічна. Лукашэнка ўсё ведае, і ён лавіруе. Ён ведае і пра тое, што большасць у Беларусі падтрымлівае Расію, і ўсё астатняе. Але ён не можа рэзка парваць з Пуціным і павярнуцца на Захад. Сёння вельмі небяспечная сітуацыя, трэба паводзіць сябе разумна, што і робіць Лукашэнка. Трэба падзякаваць прэзідэнту, што ён не падтрымаў анексію Крыма, не прызнаў незалежнасць Абхазіі. Трэба цвяроза глядзець на сітуацыю, а не імкнуцца звяртаць кіраўніка Беларусі. Бо калі не Лукашэнка, то хто? Я не ведаю.

**Гутарыў Улад Швядовіч**



**Аляксандр Новікаў**

нарадзіўся ў 1951 у Гомелі. Удзельнік афганскіх падзей: 1986—1988, дарадца.

Мае дзве вышэйшыя адукацыі: матэматык (1978); псіхолаг, практычны псіхолаг (1999). Больш за дзесяць гадоў — памочнік даверанай асобы прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, члена савета рэспублікі (1998—2008). Працяглы перыяд вёў прыватную псіхалагічную практыку.

Публікаваўся ў часопісах «Беларуская думка», «Белая вежа». Аўтар і кіраўнік беларускага літаратурнага партала «ЛітКрытыка.by».

# Не так цяжка, як здавалася

**Мітрапаліт Павел блаславіў** штомесячную беларускую службу.

Першая служба на Вялікдзень у праваслаўным прыходзе Міхаіла Арханёла ў Сухараве была беларускамоўнай.

Людзей, адзначалі ўдавочцы, на той ранішняй службе было не надта шмат: большасць адстаяла ўсяночную, а беларускамоўная служба ішла ўранку. Усяго раздалі сто беларускамоўных «Сімвалаў веры». Гэта «прыхаджанам і захаджанам», як пішуць удзельнікі службы ў Фэйсбуку.

Служыў айцец Аляксандр Шрамко. Гэта святар цікавай біяграфіі. Лідар нонканфармісцкай праваслаўнай моладзі, таленавіты публіцыст, ён прыняў пасвячэнне ў сан у 1994-м. Ад 1996 да 2007 а. Шрамко служыў у мінскім прыходзе Пакрова Прасвятой Багародзіцы, што на праспекце Пераможцаў, каля Драздоў, спалучаючы святарства з актыўнасцю ў сацыяльных сетках. Аж за адмову перастаць весці блог быў адлучаны ад служэння. Два гады Шрамко перабіваўся выпадковымі заробкамі, не могучы знайсці сталай працы, і ў 2009-м, перад Вялікім пастом, пакаяўся прылюдна ў Свята-Духавым саборы мітрапаліту Філарэту. Цяпер а.Аляксандр — адзін з шасці святароў прыходу Міхала Арханёла, у якім ён здолеў ініцыяваць беларускую службу.



Царква Ксеніі Пецярбургскай (на пярэднім плане), у якой адбываецца беларуская багаслужба.

«Першая служба — не ў значэнні «першая ў Мінску», бо рэгулярныя беларускія набажэнствы ідуць у суботу раніцай у Петрапаўлаўскім саборы, — удакладнае айцец Аляксандр. — Але ніколі яшчэ ў Мінску не служылі па-беларуску першую велікодную службу».

Многіх уразіў прыгожым і зладжаным спевам хор. «Гэта не прыхадскі, а зборны хор, мае знаёмыя, яны співаюць у розных прыходах, — кажа а.Аляксандр. — Гэта прафесіяналы, ім дастаткова некалькі разоў сустрэцца, каб спецца, у тым ліку па-беларуску».

Ці цяжка было святару і дзесяці чалавекам царкоўнага актыву дамагчыся беларускай службы? «Гэта аказалася не так цяжка, як здавалася, — кажа айцец Шрамко. — Многія людзі думаюць, што ў Экзархаце тэлепаты сядзяць, якія ведаюць, што хтосьці хоча беларускую службу і абавязаныя яе зрабіць. Вернікі самі мусяць звяртацца з такой прапановай у Экзархат».

Ніякага адпрэчання мова не выклікала. Нават вернікі, для якіх беларуская мова на Вялікдзень стала нечаканасцю, пасля дзякавалі, абяцалі пераказаць сваякам пра тое, што цяпер у прыходзе будзе такая служба.

Так, гаворка ідзе пра рэгулярнае беларускае набажэнства. Мітрапаліт Павел блаславіў правіць яго раз на месяц. Благачынны і настаяцель храма Ігар Галакаў таксама былі не супраць. Набажэнствы, паводле словаў айца Шрамко, будзе праходзіць у другую нядзелю месяца і пачынацца а 10-й гадзіне. «Мы задаволеныя, што гэта менавіта нядзеля — Божы дзень — і зручны час — не 7-я раніцы, як у Петрапаўлаўскім саборы», — кажа ён.

Прыход у гонар святога Міхаіла Арханёла быў зарэгістраваны ў мінскім Сухараве ў 1998-м. Спачатку служылі ў прыстасаваным пад царкву вагончыку, у 2005 заклалі вялікі храм. Пакуль ён будаваўся, паставілі невялікую хрысцільную царкву ў гонар Ксеніі Пецярбургскай. У ёй, а не ў вялікім храме, і будзе ісці беларуская багаслужба. Адрас прыходу — вуліца Янкоўскага, 2 (пры скрыжаванні вуліц Янкоўскага і Шаранговіча).

Ці застанецца гэты прыход адзіным, а беларуская служба ў ім — усяго толькі штомесячнай? Гэта залежыць ад актыўнасці праваслаўных вернікаў, якія хочуць маліцца на роднай мове.

**Сяргей Мікулевіч**

**Беларуская служба**

2-я нядзеля месяца, 10.00, прыход Міхаіла Арханёла (Мінск, Янкоўскага, 2), царква Ксеніі Пецярбургскай.

# Зачыняецца найбольшы ў Беларусі начны клуб

Памяшканне пераабсталююць **пад будаўнічы рынак**.

Прычына — нерэнтабельнасць. За апошні час наведвальнасць віцебскага клуба «Энергія» плошчай у 5800 м² скарацілася ў тры разы. Калі раней на дыскатэку туды збіралася тысяча чалавек, цяпер — трыста-чатырыста, кажа кіраўнік клуба Павел Вялюга. «Мы нясём тут гіганцкія страты, проста гіганцкія», — дадае ён.

Хоць у першыя гады «Энергія» была вельмі прыбытковай. Адчыніўся клуб у 2008, на піку «беларускага эканамічнага цуду». «Гэта была наша з бацькам ідэя, — расказвае Павел. — Тады ў Віцебску клубаў не было. А мы хацелі зрабіць такі клуб, пра які гаварылі б усе. Самы вялікі, самы якасны, самы бяспечны». Бацька Паўла, бізнэсмен Віктар Вялюга, кіруе прадпрыемствам «МегаЕўратэкс», якому належыць шэраг аб'ектаў у Віцебску. Ва ўласнасці «МегаЕўратэкса» быў і вялізны ангар былога завода. У ім і размясцілі клуб.

Павел ганарыцца тым, што за час існавання «Энергіі» ў клубе не было ніводнага сур'ёзнага здарэння. «Мы маем ліцэнзаваную службу аховы, не было выпадку, каб на дыскатэку прайшоў хтосьці з нажом, напрыклад. Наадварот, з адкрыццём «Энергіі» ў горадзе ўпала злачыннасць — вечарамі ўся моладзь збіралася ў нас». Дыскатэку ў тысячу чалавек кантралявалі дваццаць ахоўнікаў плюс міліцыя.

Зніжэнне цікавасці да клуба гаспадары пачалі заўважаць два гады таму. У нейкім сэнсе, яны самі справакавалі гэта, адчыніўшы ў цэнтры Віцебска забаўляльны цэнтр «Планета», дзе была не толькі дыскатэка і бар, але і більярд, і іншыя магчымасці для адпачынку. «Раней мы бралі колькасцю, цяпер — якасцю», — кажа Павел. Адначасова з закрыццём «Энергіі» бацька з сынам плануюць адчыніць у горадзе яшчэ адзін культурна-забаўляльны цэнтр «Вінтаж». Туды, паводле словаў Паўла, працаўладкуюць супрацоўнікаў «Энергіі».

У вялізным клубе была магчымасць ладзіць гучныя канцэрты. Павел з захапленнем згадвае выступ «Ляпісаў», які сабраў тры тысячы гледачоў, канцэрты «Акіяна Эльзы» і «Серабра». Пляцоўкі для выступаў ёсць і ў новых забаўляльных цэнтрах. Праўда, не такія вялікія: на паўтары-дзве тысячы чалавек.

Рызвальная імпрэза ў «Энергіі» пройдзе 27 чэрвеня, ад 1 ліпеня клуб працаваць не будзе. Але ці не з'есць крызіс і ідэю будаўнічага маркету на месцы «Энергіі»? Прынамсі, маркет дасць магчымасць акупаць вялізныя падаткі за зямлю, на якой стаіць будынак, пэўны Павел. «Побач ёсць адкрыты будаўнічы рынак, дзе працуюць дробныя прыватнікі. Мы ў былой «Энергіі» прадаём вялікія павільёны, ад 50 метраў. Различаем, што да нас прыйдуць фірмы. Такім чынам, два рынкі будуць дапаўняць адзін аднога».

**СМ**

**«Энергія» ў лічбах**

плошча — 5800 м²

барная стойка — 44 м

умяшчальнасць — 4 000 чалавек

танцпляц — 3 000 м²

магутнасць гуку — 30 000 Вт

цана ўваходу — да 50 000 рублёў (пасля паўночы, да 22.00 — бясплатна)

**Дзе варта быць**





**Выстава Міколы Селешчука**

На плошчы Якуба Коласа будуць выстаўленыя рэпрадукцыі 30 карцін гэтага мастака. Міколу Селешчука называюць «беларускім Сальвадорам Далі». Графік, ілюстратар, жывапісец, ён трагічна пайшоў з жыцця ў 1996 годзе, падчас адпачынку на моры. **Выстава яго твораў будзе працаваць ад 14 мая да 10 верасня.**

**Сцісла**

**Мульцік «Свінка Пэпа» загучыць па-беларуску**

Адзіная прафесійная суполка агучкі на беларускую мову ў Беларусі «Кінаконг» збірае сродкі на агучку мультсерыяла для самых маленькіх «Свінка Пэпа». За 47 дзён камандзе патрэбна сабраць 37,5 мільёна рублёў. Гэтых сродкаў хопіць на агучку 50 серый (першы сезон) «Свінкі Пэпы». Вынік працы будзе апублікаваны ў адкрытым доступе, каб кожны маленькі беларус змог паглядзець мульцік на роднай мове.

**Археолагі з дайверамі даследуюць 50 вадаёмаў Беларусі**

Адпаведную дамову падпісалі вучоныя-археолагі Інстытута гісторыі НАН і дайвінг-цэнтр «Марскі пегас». Дайверы разам з археолагамі даследуюць 50 вадаёмаў, сярод якіх рака Студзёнка (месца пераправы напалеонаўскай арміі), возера Свіцязь. Ёсць прапанова даследаваць нават драўляны водаправод у Слоніме, частка якога знаходзіцца пад вадой. Археолагі спадзяюцца адшукаць унікальныя прадметы. Так, у 2013 на рэчцы Віхра пад Мсціславам дайверы паднялі з глыбіні 3,5 метра даспехі рыцара ВКЛ.

# Абвешчаны шорт-ліст прэміі Гедройца

У спіс трапіла шэсць кніг.

**Таццяна Барысік. Жанчына і леапард.** — Мінск: «Кнігазбор».

**Альгерд Бахарэвіч. Дзеці Аліндаркі.** — Мінск: «Галіяфы».

**Антон Францішак Брыль. Ян Ялмужна.** — Мінск: «Кнігазбор».

**Андрэй Гуцаў. Кніга зданяў.** — Мінск: «Кнігазбор».

**Сяргей Дубавец. Сіні карабель у блакітным моры плыве.** — Мінск: «Каўчэг».

**Віктар Казько. Час збіраць косці.** — Мінск: «Кнігазбор».

Да канца мая журы (Уладзімір Арлоў, Ігар Бабкоў, Малгажата Бухалік, Адам Глобус, Ганна Кісліцына, Андрэй Федарэнка, Ціхан Чарнякевіч, Ганна Янкута) абвесціць лаўрэатаў. Прэмія прысуджаецца за найлепшую кнігу ў жанрах «мастацкая проза» і «эсэістыка». Узнагарода за першае месца — чэк на суму каля 10 тысяч еўра, якую кожны год вызначае «Ідэя Банк».

**СМ**

# Памёр Гюнтэр Грас

Нямецкі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры Гюнтэр Грас памёр ва ўзросце 87 гадоў, у шпіталі ў горадзе Любек. Сярод яго прац — раманы «Бляшаны барабан» і «Кошкі-мышкі». Ён атрымаў Нобелеўскую прэмію ў 1999 годзе. У 2006 годзе Грас прызнаў, што служыў у шэрагах Вафэн-СС. У 2012 ён стаў персонай нон грата ў Ізраілі з-за памфлета, у якім ён сцвярджаў, што «яўрэйская дзяржава нясе пагрозу міру».

**СМ**

# Трэба было ўгаварыць Быкава вылучацца ў прэзідэнты

Пра кнігу Сяргея Навумчыка **«Дзевяноста чацвёрты»** піша — і спрачаецца — **Алег Трусаў.**



**Васіль Быкаў выступае на мітынгу ў абарону незалежнасці.**

Нядаўна ў серыі «Бібліятэка Свабоды. XXI стагоддзе» выйшла чарговая кніга супрацоўніка беларускай рэдакцыі радыё «Свабода» Сяргея Навумчыка «Дзевяноста чацвёрты». Адразу хачу сказаць, што гэта захапляльная кніга, якая чытаецца нібы раман. Хачу таксама адзначыць добрую беларускую мову аўтара і лёгкі, захапляльны стыль пісьма. Я магу параўнаць яе з творам таленавітага пісьменніка і журналіста Віктара Марціновіча «Мова», што выйшаў у мінулым годзе і набыў вялікую папулярнасць. Дарэчы, тым, хто яшчэ не чытаў кніг Навумчыка і Марціновіча, раю іх прачытаць разам, бо, калі б у 1994 годзе перамог Кебіч, кніга Марціновіча набыла б жахлівую рэальнасць. А як тут не прыгадаць твор Вайновіча «Востраў Крым», які год назад здзейсніўся і працягвае палохаць увесь свет пачварай Трэцяй сусветнай вайны.

Але я хачу падысці да кнігі Навумчыка і як непасрэдны ўдзельнік усіх падзей, што адбыліся на палітычнай сцэне Беларусі ў 1994 годзе. Свой першы раздзел Навумчык называе «Рэванш імперыі», але я б сказаў крыху інакш. «Часовы рэванш імперыі», альбо «Пірава перамога «Рускага міра». Трэба сказаць, што маладая «камсамольская» наменклатура, якая выйграла выбары ў Кебіча ў 1994 г., выйграла іх і ў ельцынскай «старой» наменклатуры ў Маскве і ледзь не захапіла Крэмль, як гэта здолеў зрабіць у XVII ст. іх ідэйны сабрат Ілжэдзмітрый І. Не раз яна паказвала «дулю ў кішэні» і пераемніку Ельцына, а часам не саромелася яе з гэтай глыбокай кішэні і дастаць.

Дарэчы, Беларусь здольная ў гэтым кірунку. Можна прыгадаць і Алену Глінскую, рускую царыцу, і першую імператрыцу Расіі Кацярыну І, якая нарадзілася ў Мінску, непадалёку ад сённяшняй прэзідэнцкай сядзібы.

Асноўная заслуга ў паразе Кебіча менавіта ў апазіцыі БНФ, якая ў жывым эфіры патрабавала адстаўкі Кебіча некалькі гадоў. І тут я згодны з Мечыславам Грыбам, які лічыць, што шансаў выйграць выбары ў Кебіча пры любым раскладзе не было. Не мог, на маю думку, пры любым раскладзе выйграць гэтыя выбары і Зянон Пазняк, бо ўся інфармацыйная машына Сакалова, Малафеева і асабліва Кебіча паспяхова ствярыла яму і нам, яго прыхільнікам, адмоўны імідж.

Цяпер, пражыўшы на свеце 60 гадоў, я лічу, што галоўнай памылкай Партыі БНФ было вылучэнне ў першыя прэзідэнты свайго лідара і тым чынам страта яго велізарнага патэнцыялу ў будучым. Нам усім трэба было ўгаварыць вылучыцца на гэтую пасаду Васіля Быкава. У яго каманде знайшлося б месца і Пазняку, і Шушкевічу, і Карпенку. Толькі Быкаў, стваральнік і адзін з заснавальнікаў БНФ, мог скласці ў другім туры канкурэнцыю Лукашэнку і з дапамогай чытвай каманды Кебіча яго перамагчы.

Пэўныя шансы былі і ў Радзіма Гарэцкага. Час Пазняка прыйшоў бы крыху пазней, на другіх прэзідэнцкіх выбарах, праз пяць гадоў.

Чаму тады выйграў Лукашэнка? Справа ў малой адукаванасці беларускіх выбаршчыкаў. Іх колькасць складала тады крыху больш за 7 мільёнаў, з іх з вышэйшай адукацыяй — толькі каля 1,5 млн. Значная колькасць з іх — гэта ўдзельнікі і дзеці апошняй вайны, якія паверылі, што ім вернуць знішчаныя грашовыя ўклады, разбяруцца з карупцыяй і наогул з тымі, хто адарваўся ад іх і сконччыў «розныя там акадэміі». «Сашка им покажет», — крычалі яны (я сам чуў у Шклове і Мінску) і гурмай беглі на выбарчыя ўчасткі.

Нават каб усе партыі і рухі, і асабліва «Грамада», як вельмі зараз хочацца Навумчыку, падтрымалі Пазняка, справа магла скончыцца перамогай Лукашэнкі ўжо ў першым туры. Бо наш кандыдат Шушкевіч адбіраў галасы толькі ў Кебіча. Усе, хто хацеў, галасавалі за Пазняка. Дарэчы, у другім туры некаторыя з іх падтрымалі Лукашэнку.

Цікава, што ў сваёй кнізе Навумчык ні разу не згадаў пра тое, што ў 1993 годзе была створана Партыя БНФ, якая і магла вылучаць палітычныя кандыдатуры на выбарах.

Да гэтага ў БНФ, як у шырокі грамадскі рух, маглі ўваходзіць і камуністы, і беспартыйныя. (На першым з'ездзе БНФ у Вільні ў 1989 паплечнікамі Пазняка былі абраныя камуністы, дактары навук Міхась Ткачоў і Юрась Хадыка.) Шмат камуністаў, сярод іх і Сяргей Навумчык, было і ў фракцыі БНФ.

Менавіта рух БНФ паспрыяў стварэнню новых дэмакратычных партый, і асабліва БСДГ. Першы кіраўнік Грамады — Міхась Ткачоў, яго намеснікі Мікола Крыжаноўскі і аўтар артыкула — усе актывісты БНФ.

Не напісаў Навумчык і пра тое, што ў БСДГ існавала свая фракцыя ў Вярхоўным Савеце XII склікання (спачатку 12, а потым і 15 чалавек) і далёка не ўсе яе сябры ўваходзілі ў апазіцыю БНФ.

На маю думку, стварэнне ўнутры БНФ асобнай партыі было велізарнай памылкай, бо астатнія сябры БНФ, якія ўжо даўно былі ў іншых дэмакратычных партыях, сталі «фронтаўцамі» другога гатунку, і да іх сталі ставіцца зняважліва, што добра адчуваецца ў кнізе Навумчыка.

Дарэчы, Пазняк і яго новае атачэнне не прапаноўвалі мне і маім сябрам з Грамады ўвайсці ў яго каманду. Яны разлічвалі на перамогу ў першым туры і ўжо дзялілі міністэрскія партфелі.

Потым гэтыя «новыя» людзі ў 1995 годзе запатрабавалі адстаўкі Пазняка, а пазней раскалолі і фактычна знішчылі Партыю БНФ як моцную палітычную сілу.

Што тычыцца Шушкевіча, то тут Навумчык мае рацыю, бо гэтую кандыдатуру вылучыў Мікола Статкевіч, загітаваў за яе большасць сяброў Грамады, а потым цалкам ухіліўся ад удзелу ў выбарчай кампаніі Шушкевіча.

Трэба сказаць, што першая ў Беларусі кааліцыя з трох палітычных партый — Грамады, Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі і Сялянскай партыі — годна правяла выбарчую кампанію і здолела якасна сабраць неабходную колькасць подпісаў, што нельга сказаць пра іншых кандыдатаў.

Навумчык смакуе нашыя адносіны з камандай Генадзя Карпенкі. А тут усё даволі проста. Каманда Карпенкі праўдамі і няпраўдамі хацела сабраць, як і каманда Лукашэнкі, 70 подпісаў дэпутатаў ВС, каб зарэгістравацца, не збіраючы подпісаў грамадзян. Сабраць подпісы ў Вярхоўным Савеце Лукашэнку не ўдалося, у Карпенкі справы ішлі лепш, але крыху подпісаў не хапала і яму.

Тады і адбылася сустрэча паміж прадстаўнікамі Карпенкі і мною, як лідарам Грамады, дзе мы дамовіліся, што ставім подпісы за Карпенку, а ён спрыяе нам у зборы подпісаў за Шушкевіча ў Маладзечне. (Карпенка ўзначальваў Маладзечанскі гарвыканкам — **Рэд.**). Аднак у Маладзечне зрабілі ўсё, каб мы там подпісаў не сабралі. Калі я нагадаў памочнікам Карпенкі пра нашу дамову, я пачуў абразы ў бок Шушкевіча і такі прыкладна адказ: «Мы ўжо сабралі подпісы грамадзян, а вашыя подпісы можаце забраць назад». Гэта мы і зрабілі ў спецыяльнай заяве ў Выбарчую камісію. Зразумела, я ведаю, што браў на сябе палітычную адказнасць, але ў палітыцы гэта неабходна. Хачу сказаць, што Навумчык гэта зрабіў у 1996 годзе, калі ў вельмі цяжкі момант для Бацькаўшчыны яе пакінуў і спыніў сваю палітычную дзейнасць, стаўшы супрацоўнікам радыё «Свабода», дзе забаронена любая палітычная прыналежнасць.

Але подпісы за Карпенку сабралі вельмі неахайна, бо там прысутнічаў вялікі грашовы фактар. Потым на гэтыя ж граблі стаў і Леанід Сініцын.

Затым тыя ж людзі здрадзілі Карпенку і пайшлі служыць першаму прэзідэнту. Калі Карпенка стаў дэпутатам ВС XIII склікання, мы сустрэліся, абгаварылі ўсе дэталі той справы, і канфлікт быў вычарпаны.

* * *

Ёсць і яшчэ адна дэталь, якую лічу патрэбным адзначыць. У кнізе Янкі Запрудніка «Беларусь на гістарычных скрыжаваннях» і знаходжу цытату з выказванняў Сяргея Навумчыка і яе ацэнку, зробленую Запруднікам.

«Шматгадовае вынішчэнне нацыянальнай інтэлігенцыі, насаджэнне ў чалавечай свядомасці артадаксальнага бальшавізму не магло не прывесці да збяднення інтэлектуальнага патэнцыялу нацыі», — лічыць дэпутат Вярхоўнага Савета Сяргей Навумчык. На яго думку, камуністычная прамыўка мазгоў стварыла тып грамадзяніна, які «звык да любой свежай, арыгінальнай ідэі ставіцца з велізарным сумненнем, а то і з нянавісцю».

Першымі «палітызатарамі» беларускага грамадства былі маладыя нашчадкі партыйнай арыстакратыі. Прычыны гэтага — і псіхалагічныя, і сацыяльныя: тут відаць прыкметы вядомага сіндрому «залатой моладзі». Жывучы ў бяспечнай атмасферы ўплывовых сем'яў, маючы шырокі доступ да інфармацыі аб жыцці ў навакольным свеце і будучы ідэалістычна настроенымі, некаторыя з гэтых маладых людзей (вядома ж, не большасць) востра адчулі маральны раскол савецкага грамадства. Напор перабудовы даў ім магчымасць дзейнічаць згодна са сваімі пачуццямі і ўмацаваў іх пазіцыю ў сутыкненнях з бацькамі, што часам мела драматычны характар».

Думаю, тут Запруднік яшчэ больш за 20 гадоў назад трапна адзначыў, праз якія «акуляры» бачыў палітычны працэс Навумчык.

* * *

Добра, што кніга Навумчыка выйшла напярэдадні чарговых прэзідэнцкіх выбараў. Яе варта з алоўкам прачытаць усім будучым удзельнікам кампаніі. Здаецца, што чарговая элегантная перамога Лукашэнкі на іх непазбежная. Але я ў гэтым не ўпэўнены, і вось чаму. Зараз ён можа паўтарыць лёс Кебіча, бо людзі ад яго кіравання ўжо стаміліся, і калі з'явіцца нейкая новая трэцяя сіла, як гэта было ў 1994 годзе, і за яе спінай будуць праглядацца зоркі Крамля, то вынікі выбараў могуць стаць для яго вельмі нечаканымі. У якасці прыкладу можна прывесці выбары прэзідэнтаў у непрызнаных рэспубліках, такіх як Абхазія і Прыднястроўе.

Вось і даводзіцца яму цяпер даваць публічна замежным журналістам абяцанні, што Беларусь ніколі не стане «Северо-Западным краем», прасіць на Захадзе хоць нейкую падтрымку, найперш фінансавую.

Маю таксама спадзяванне, што знойдуцца новыя людзі, сапраўдныя патрыёты Бацькаўшчыны, якія змогуць становча выкарыстаць вопыт палітычнай дзейнасці БНФ і здабудуць перамогу пад бел-чырвона-белым сцягам і нашай старадаўняй «Пагоняй».

Апавяданне. Піша **Ганна Севярынец**.

# Мае хлопцы

Часам мне падаецца, што я хутка выб'юся з розуму.

Не, а што б вы казалі пра цётку, якая выкручвае галаву ў дваццаць дзявятым аўтобусе, калі ён павяртае з Камуністычнай на Купалы, каб паглядзець, ці надзеў Багдановіч шалік.

Не, я не жартую, далібог. Еду неяк у дваццаць дзявятым, свядома еду, па дарослых журналісцкіх справах, кастрычнік, холад, пранізлівы вецер чакае мяне на наступным прыпынку, але я пакуль што не думаю пра прыпынак, я спрабую разгледзець праз акно, як там Багдановіч. Вуньвунь, шэрае паліто за дрэвамі сквера, во нягоднікі, куды помнік запёрлі, раней было куды лепш: зірнуў у акно — вось ён. Нарэшце бачу знаёмую постаць, і першае, інстынктыўнае, несвядомае жаданне — выскачыць прыпынкам раней і збегаць да Максіма пазашпільваць яму гузікі, бо я ж ведаю: стаіць там, як заўсёды, расхрыстаны, а ў хлопца ж сухоты!

І справы мне, што архітэктар усе гузікі і без мяне пазашпільваў, робячы з сапраўднага Максіма, больш занятага вершамі, чым уласным выглядам, шляхетнага грамадзяніна для галоўнага помніка. Я проста ведаю, што Максіму ўсё ягонае сіроцкае жыццё не ставала жаночай рукі, а я — ёсць, і рукі ў мяне ёсць, і Максім — вунь ён, стаіць.

І зноў жа не жарт, а суворая праўда жыцця: тэлефануе неяк сяброўка — маўляў, даўно не сустракаліся, пайшлі па кубачку кавы сербанём. А я мыкаю ў слухаўку і не магу ёй сказаць, што насамрэч якраз на сёння мы з Бабарэкам дамовіліся наконт «Узвышша» тое-сёе перацерці. Гэта звонку выглядае, нібыта я проста чытаю таўшчэзны том са збору твораў, гэта мы канспіруемся з ім, каб людзі чаго благога не падумалі. А папраўдзе якраз сёння ўранку я сказала яму: «Гэй, Адаме, ну колькі ж можна, калі ты ўжо мне распавядзеш, як там усё было» — і ён мне ў адказ: «Пані Ганна, сёння — і ні днём пазней».

Гэта толькі ў вас там у падручніках яны ніколі не сустракаліся разам, Купала, Багдановіч і Дубоўка. У мяне яны сустракаліся, і яшчэ як! Во гэта была вечарына: выкшталцоны шляхетны Купала, размаўляе павольна, спакойна, граматычна дасканала, смакуючы дзеепрыметныя звароты і розныя складаназлучанасці; гучнагалосы Дубоўка са сваёю шырокай і бурнай, сакавітай, неабсяжнай мовай — і Максім, радасна ўсхваляваны, шчаслівы аднадумцамі, са стараннымі «дж» і «дз», акуратнымі, ладна пабудаванымі сказамі і ледзь чутнымі паўзамі між словамі — успамінае, падбірае, узважвае. П'юць, канечне: Купала — віно, Дубоўка, зразумела, гарэлку, Багдановіч — сваю гарбату, абавязкова каб без цукру. Не, Валодзя панастойваў, канечне, пажартаваў, пляснуў сябра па плячы, але хутка адвязаўся, бо гэтаму Багдановічу, браткі, і гарэлкі не трэба, так рагоча. Гэта ён на людзях ціхі, а са сваімі — агонь. Гадзіну балююць, другую, Купала гальштук расслабіў, Дубоўка ўжо песню зацягнуў, Багдановіч — ну падпяваць, ні слыху ні голасу, але ж кулаком па калене пастуквае, рытм трымае. Раніцой на вуліцу выйшлі. Хутка сонца ўстане. Куды ж яно дзенецца.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Карацей кажучы, напэўна, я ўсё ж такі не зусім здаровая па медыцынскіх мерках. У наяўнасці — праблемы з успрыняццем рэчаіснасці і прасторавачасавая шызафрэнія.

Але ад таго, што я паставіла сабе дыягназ, мне не лепш. Бо яна не адступае, гэтая ці то тэле-, ці то эмпатыя. Ні ў якіх абставінах.

Я, напрыклад, сапраўды адчуваю, як пахне у той камеры ў Бутырцы, дзе мае хлопцы сустрэліся, Дубоўка з Бабарэкам.

Раней такія гісторыі патыхалі сырым сенам і восеньскім дажджом, бо менавіта так пахла на паштовай станцыі Залазы ў той вечар, калі Пушкін раптоўна сустрэўся з вязнем Шлісельбурга, ліцэйскім сваім таварышам, дзекабрыстам Кюхельбекерам, якога этапавалі ў Сібір («Мы кінуліся адзін аднаму ў абдымкі. Жандары нас расцягнулі. Фельд'егер узяў мяне за руку з пагрозамі і лаянкай — я яго не чуў. Кюхельбекер апрытомнеў»). Цяпер гісторыі патыхаюць інакш.

З кута — ажно вочы рэжа — цягне выпаражненнямі, і я ледзь магу прызвычаіцца, і пачынаю плакаць, бо вочы страшэнна баляць і дыхаць немагчыма, і не тое каб проста фізічна немагчыма, а ў дадатак яшчэ сорамна і зневажальна. І тады нейкі агромністы дзядзька, збіты, худы, але відавочна «свой», туліць мяне да грудзей, і я дыхаю ягонай кашуляй, таксама не фіялкі, але ўсё ж лепей. Я забіраюся некуды ў кут, на нейкія анучы ці што там, кажу: «Уладзімір Мікалаевіч, пакуль я побач, дайце хоць падцырую што, якія гузікі падшыю», — і ён пачынае бязгучна, але заразліва рагатаць, і тут зноўку расчыняюцца дзверы, і ўваходзіць... Не, тое немагчыма! Адаме, браце! Яны кідаюцца адзін аднаму ў абдымкі. Бабарэка надзеты ў нейкае абы-што, усё гэтае рыззё распаўзаецца на целе, і, калі ён сядае побач, я бачу на ягоных грудзях акурат паверх зоркі, выпаленай катамі ў польскім палоне, сінія шнары ад нашага ўжо, савецкага катавання — такія шнары пакідае гумавы шланг, калі біць ім наводмаш. Яны размаўляюць, але я амаль нічога не чую, а больш — не разумею, бо яны не сказамі і нават не словамі размаўляюць — маўчаннем і позіркамі. І раптам Дубоўка кажа: «А во, Адаме, глядзі, што ёсць у мяне — і дастае з кішэні нейкія паперчыны. — Гэта «Шыльёнскі вязень» Байрана. Пераклаў». Бабарэка падхопліваецца, бяжыць да падваконня. «Аловак давай! Трэба, каб і ў мяне было!» — і так і стаіць, у гэтым цяжкім перанасычаным аміякам паветры, з гэтымі незагоенымі ранамі, стаіць ля слізкага падваконня камеры Бутырскай турмы — і перапісвае Дубоўкавы вершы. Я ведаю, што жыць застанецца менавіта Адамава копія, бо Дубоўкава загіне падчас вобшукаў, але ж гэта я ведаю, Бабарэка — не ведае, і ўсё ж перапісвае, а Дубоўка сядзіць на нарах, прытуліўшыся да сцяны, і вочы заплюшчыў, і я бачу, што ні пах гэты, ні анучы гэтыя — нічога навокал яго не зневажае. Сядзіць сабе паэт, і плываў ён на ўсё гэтае недасканалае наваколле.

Я бачу ўсё.

Я бачу шклянку з суніцамі, якія маладзенькая медсястрычка Валя прынесла хвораму студэнту, які не сёння, дык заўтра памрэ ў белым доме ля сіняй бухты. Суніцы нагрэтыя майскім сонцам, і з іх на дно шклянкі бяжыць крывавы сок, і яны паміраюць, бо той, для каго іх неслі, больш не хоча суніц.

Я бачу падрапаныя шпалеры на той сцяне, у якую ў смяротным адчаі ўтаропіўся хударлявы, немалады ўжо чалавек: ён ляжыць на ложку спінай да ўсіх, толькі што ён усадзіў нож сабе ў жывот, і ён прагне смерці, але смерці не будзе — будзе шпіталь, ахова, ветлівыя людзі ў цывільным і яшчэ дванаццаць год бясконцай ганьбы і паразы. І тую выкшталцоную плітку хола ў маскоўскім гатэлі — таксама бачу: калі глядзець на яе з пятага паверха, у праём лесвіцы, і быць пры гэтым адчайна п'яным, яна круціцца ў пачварным карагодзе і раптам абяцае вечнае вызваленне.

Канечне, я не выходжу з дваццаць дзявятага і не імчуся да Максімавага помніка. Я — дарослая жанчына, і мне яшчэ ніколі не быў патрэбны не тое што псіхіятр, а нават псіхолаг. Я еду сабе далей, выходжу ля Нямігі, падымаюся пад горку, і тут, ля клуба імя Дзяржынскага, раптам чую аднекуль з сутарэнняў — стрэлы. Адзін. Другі. Трэці. Чацверты. Я ведаю, што я не злічу іх, гэтыя стрэлы, і ведаю, што раніцай энкавэдзістам выклічуць спецыяльную масажную каманду, і масажысты будуць распрацоўваць іх пальцы, бо застрэліць за ноч сто чалавек — гэта нават не мяшкі варочаць, гэта цяжкая праца. І я ўжо чую пах адэкалону — тыя, хто страляў, не выходзілі на вуліцу, пакуль не вымываліся цалкам у адэкалоне, бо не пойдзеш дадому ўвесь у водары крыві і смяротнага жаху, і я раптам кідаюся на іншы бок вуліцы, бо вунь ён ідзе, нейкі мужчына, ад якога на дзесяць метраў смярдзіць адэкалонам...

І нічога немагчыма зрабіць для гэтых хлопцаў. Нічога. Ані зашыць кашулю, ані падаць вады, ані пазашпільваць гузікі. Хіба што ўспамінаць, пакуль жывеш: як яны там, нашыя хлопцы, у сваёй вечнасці? Ці паелі?



**Ганна Севярынец**

нарадзілася ў 1975 у Мінску. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Выкладчык, журналіст. Аўтар праекта «Аксамітавая Беларусь» на беларускім жаночым партале Velvet.

# Дубоўка. Сюжэт

Я раскажу вам Гісторыю. Яе мне распавяла бабуля — з першых рук, і калі нехта некалі захоча зрабіць беларускі блокбастар, фільм для мільёнаў, нерагодны па сіле, параўнальны з «Уцёкамі з Шоўшэнка» ці «Зялёнай міляй» з паметкай «заснавана на рэальных падзеях», — ведайце, што у нас ёсць такая гісторыя і такі чалавек. Такім чынам — фільм. Няхай ён пачнецца закадравым голасам. Няхай расказвае мая бабуля.

Яе бацька, Аляксандр Сак, быў расстраляны ў 1937-м годзе як нацдэм. Па выніках допытаў, стэнаграмы з якіх яна паспела атрымаць у пачатку 90-х, стала вядома, што ён быў добра знаёмы з Тарашкевічам, Купалам і з чалавекам, пра якога пойдзе гаворка далей, — Уладзімірам Дубоўкам.

Дубоўка і мой прадзед былі сябрамі, але так сталася, што праз пастаянныя арышты, якія пачаліся ў 30-м годзе, Уладзімір Мікалаевіч не бачыў, ні як ягоны сябар ажаніўся, ні як у таго нарадзілася дачка, Галя. У гэты час Дубоўка быў у ссылцы на далёкім усходзе, дзе ў рэшце загінуў ягоны 13-гадовы сын.



І вось пасля смерці Сталіна, рэабілітаваны ў 57-м годзе, Дубоўка прыязджае ў Менск, каб убачыць — не свайго сябра, які ўжо 20 год як забіты. Не яго жонку, якая не так даўно вярнулася з 15-гадовай ссылкі на Калыму, а ягоную дачку, якую ніколі не ведаў, але вельмі хацеў убачыць хоць раз.

І няхай у гэтым фільме будзе паказана ўсё так, як расказала мне бабуля. Як аднойчы ў іхны вялікі дом на Розачцы зайшоў высокі і прыгожы мужчына з такімі блакітнымі вачыма, якіх яна ніколі не бачыла. Як ён сказаў, што вельмі рады пазнаёміцца з дачкой свайго сябра, якая была на той момант студэнткай архітэктурнага факультэта. Як ён сядзеў за сталом і расказваў пра сваё жыццё за апошнія 10 год. Расказваў і смяяўся. Гучна смяяўся з гэтай сумнай і нейкай шчымлівай гісторыі. Няхай так пачынаецца асноўная частка фільма.

У 1947-м годзе Дубоўку пасля чарговага арышту саслалі ў горад Зугдзідзі ў Грузіі. Там ён уладкаваўся працаваць (як я зразумеў) — бухгалтарам. І так сталася, што шчыры, прыгожы і адкрыты беларус вельмі спадабаўся мясцовым грузінам і асабліва дырэктару саўгаса Наразені, у якім ён працаваў. За два гады Уладзімір сапраўды стаў іх часткай жыцця, і, натуральна, да яго ніхто не ставіўся як да зняволенага. Ну, тут трэба разумець: гэта Грузія, усе свае, ва ўсіх паўсюль дзядзя, брат, бацька — там дзе трэба і кожны кожнаму дапамога, чэк, доўг і хабар.

Таму адным днём дырэктар папрасіў Дубоўку адвезці паперы (па-мойму) у Тбілісі. Той, натуральна, адмаўляўся, бо гэта парушэнне ўмоў пасялення. Але давайце ўявім сабе гэтую сцэну, як вясёлы, дабрадушны грузін угаворвае свайго «нардычнага» прыяцеля зрабіць ласку, як ён смяецца і кажа, што ўсё будзе добра і не трэба баяцца. Што ўсе тут свае, і праз некалькі гадзін ён ужо вернецца, і ніхто ні пра што не даведаецца. Але, калі Дубоўка пагадзіўся і паехаў — на жаль, даведаліся. Яго арыштавалі. Перш чым этапаваць, ягоныя канваіры павінны былі даставіць Дубоўку на папярэдняе месца працы для афармлення дакументаў.

І вось мы бачым, як два абыякавыя чалавекі са стрэльбамі вязуць невясёлага беларускага паэта, а для іх — звычайнага бухгалтара, у Зугдзідзі.

Але ў Грузіі — сапраўды «ўсе свае», і нехта ўжо патэлефанаваў, і нехта ўжо папярэдзіў дырэктара саўгаса пра няшчасце, якое здарылася з ягоным сябрам і той… Карацей, калі канвой прыбыў у саўгас — сталы там ламіліся ад мяса і віна. І вось мясцовыя жыхары просяць канвой увайсці ў становішча і не пакрыўдзіць іх. І не адмовіцца ад удзелу ў мерапрыемстве, сэнс якога — шчыра, па-грузінску праводзіць добрага чалавека, які патрапіў у бяду, дапамагаючы ім. Канваіры, канечне, таксама былі грузінамі і таму, натуральна, не адмовілі ў просьбе генацвале. І калі праз некалькі гадзін яны, п'яныя, ляжалі, уткнуўшыся тварамі ў хачапуры, дырэктар падышоў да Дубоўкі.

Давайце ўявім сабе. Гэтая сцэна, дзе ён просіць прабачэння ў сябра і кажа яму: зараз мы зрабілі, што маглі, канваіры п'яныя і больш цябе не затрымліваюць — бяжы. Схавайся ў гарах. Там ніхто ніколі цябе не знойдзе, табе дапамогуць, я ведаю людзей. Але Дубоўка падышоў да вартаўнікоў, узяў іх пад пахі, а іх стрэльбы павесіў на плячо і павёў іх туды, дзе яго даўно чакалі кампетэнтныя органы. Некалькі кіламетраў ён цягнуў свой п'яны канвой. Пра што ён думаў? Чаго чакаў? Яму далі 25 год. Тбіліская турма, а затым Краснаярскі край. І вось сухарукі, рабы людажэр, так непадобны да тых людзей, якіх Дубоўка сустрэў у Грузіі, здох. Рэабілітацыя — 57 год.

І няхай так мы ўбачым заключную частку фільма. Залітыя сонцам вузенькія вулачкі — Розачка, Грушаўка. А на іх дамы з вялізнымі яблынямі. У адным з іх вялікі стол (ён і цяпер стаіць на нашым лецішчы), а за ім сядзіць высокі, не зламаны амаль трыццаццю гадамі арыштаў, прыгожы чалавек з блакітнымі вачамі і глядзіць на дачку свайго сябра, у якой, па маіх прыкідках, не болей за метра паўтара. Яны размаўляюць, яны смяюцца.

**Стась Карпаў**

**На праспекце Незалежнасці ва Уруччы і каля Акадэміі навук на тратуарах заўважаны вось такі трафарэтны моўны надпіс.**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



**Адзін з найбагацейшых людзей у свеце, султан Брунэя Хасанал Болкіях, у нядзелю жаніў свайго сына прынца Абдулу Маліка. Султан багатага на нафту Брунэя знаходзіцца ва ўладзе 48 гадоў. Каб абысці ўсю ягоную рэзідэнцыю мала і тыдня. 257 ванных пакояў, 18 ліфтаў і мячэць на паўтары тысячы чалавек — усё гэта знакаміты Палац Свету, які ўвайшоў у Кнігу рэкордаў Гінэса як самая буйная рэзідэнцыя кіраўніка краіны. Агулам вяселле 31-гадовага Абдулы Маліка і 22-гадовай Даянгку Раабіатуль доўжылася 11 дзён.**



**Патрыярх Кірыл адкідае цень на кіраўніка Расіі.**



КІРЫЛА ХІЛЬКО

**Моладзь прагульваецца ў цэнтры Мінска на дыбах.**



## Анекдоты і жарты

* * *

У дзяцінстве бацькі казалі мне, што ад тэлевізара тупеюць, а я не згаджаўся. Я вырас і цяпер кажу ім тое самае, але яны не згаджаюцца.

* * *

Выходныя патрэбныя, каб ты сядзеў дома і ўсе ад цябе адпачылі.

* * *

Перад смерцю бацька вырашыў падзяліць спадчыну паміж трыма сынамі...

– Афігенна, блін! — сказаў чацвёрты сын.

* * *

– Што за рэстаран?! Цяляціны няма, труфеляў няма, вустрыц няма... Прынясіце мне маё паліто!

– На жаль, вашага паліто ўжо таксама няма.

* * *

Першыя 40 гадоў дзяцінства самыя складаныя ў жыцці хлопчыка.

* * *

Адзежу трэба купляць пад колер поўсці твайго ката.

* * *

Я ўжо паўгода хаджу ў трэнажорную залу, і мая дзяўчына адчувае сябе са мной пад абаронай, бо, калі на нас нападуць хуліганы, я змагу прысесці 3 падыходы па 12 паўтораў.

## Шаноўныя чытачы! Наступны нумар «Нашай Нівы» выйдзе 29 красавіка. Саджайце бульбу толькі найлепшых гатункаў!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Конскія трупы.** Для закопвання раскіданых у ваколіцах Вільні трупаў згінуўшых і забітых коней наладжаны асаблівы лятучы атрад пад загадам ветэрынарных дактароў.

**«НН». №15. 1915.**

**Грааль са стандартнай трансмісіяй.** Чытаць «Код да Вінчы» Дэна Браўна — што блукаць па кунсткамеры ўначы. Каб не разбіць галавы, вазьміце з сабой лямпу, запраўленую здаровым глуздам. Сэкс, забойства, таямніца — і ўсё разам — «забаронены плод». Не дзіва, што Браўн і мультымільянерам зрабіўся, і аўтавытворцаў не пакрыўдзіў. Хай бы і зарабляў сабе як пісьменнік-рэкламіст. Але Браўн — не проста фантазёр, але і дробны брахун, прычым з самага першага слова ягонай кнігі.

**«НН». №15. 2005.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 14.04.2015.
Замова №1167.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15015